ISSN 0320-7579

# БЯРОЗКА

№ 4/2016(1055)

Фота — Андрэй Дубінін, апрацоўка — Аляксандр Дземідзенка

ГОСЦЬ: ГУРТ RE1IKT

ЯК ЗРАБІЦЬ СВОЙ СМАРТФОН БЕЛАРУСКІМ?

№ 4

## СЫМОН-МУЗЫКА: SELFMADEMAN

# Славутасці Белавежскай пушчы ў мініяцюры

*Тамтэйшы Музей прыроды прадстаўляе*







На ўваходзе наведвальнікаў сустракае Пугінал, які дасягаў пры жыцці амаль максімальных для зубра памераў — каля двух метраў вышынёй і важыў 1200 кілаграмаў.

З выкарыстаннем манекенаў узноўлена сцэна сярэднявечнага палявання на тура.

У старажытныя часы ў Еўропе яшчэ вадзіліся дзікія коні, або тарпаны. Лясны тарпан лёгка прыручаўся. З 1933 года навукоўцы спрабавалі аднавіць папуляцыю. Істоту назвалі тарпанавідны конь, паколькі гэта не чыстакроўны лясны тарпан, а мяшанец паміж дзікім і хатнім канём.

Паляўнічы палац у Белавежскай пушчы быў своеасаблівым кутком цывілізацыі сярод першабытнага лесу. На жаль, да нашага часу палац не захаваўся, але ў музеі можна пабачыць фотаздымкі з выявамі палаца, а таксама яго макет.

*Дзе гэта можна ўбачыць: Брэсцкая вобласць, Камянецкі раён, аг. Камянюкі.*

# Пра мары



*Ганна Варонка, 11 клас, Свіслацкая гімназія*

Для мары не існуе сцен і межаў, ёй не патрэбны карты і компасы. У сямнаццаць гадоў марыцца па-асабліваму, на ўсю моц дыхаецца, сонейка свеціць аднаму табе. І ты столькі ўсяго жадаеш: скокнуць з парашутам, аб'ездзіць увесь зямны шар, напісаць геніяльны раман, вынайсці лекі ад страшнай хваробы, перакласці ўсе творы свету на беларускую мову… Убачыць, адчуць, знайсці! Хутчэй, хутчэй! Але неяк зусім нечакана прыйдзе думка, што, мабыць, не будзе ўсё так ідэальна ў сапраўдным жыцці.

Мы верым у казку, але, калі па праўдзе, гэта толькі сродак збегчы ад рэальнасці, дзе крычыць п'яны бацька, развальваецца сям'я, памёр блізкі чалавек ці проста цябе ніхто не разумее. Мы такія светлыя, як здаецца, не пакрыўджаныя жыццём, але на самай справе ўжо даўно пасталелі ад таго, што пануе сярод людзей, у сем'ях і ў свеце. І мы бяжым, бяжым ад усяго, бяжым хто як можа, бяжым у будучыню, якая здаецца нам збаўленнем ад усіх нашых праблем. І тады толькі ад чалавека залежыць, які шлях ён абярэ: ісці супраць плыні і перамагчы ці дазволіць сабе быць пераможаным і на ўсё жыццё стаць ахвярай самога сябе.

У юнацтве ты яшчэ сам не ведаеш, на што ты здольны. І, мабыць, смеласць і ўпэўненасць — самае галоўнае, што патрэбна ў гэты час. Але іх так часта не стае. Кожны пройгрыш здаецца самым вялікім. Мы яшчэ не ведаем, што іх будзе шмат. Дарэчы, усяго ў нашым жыцці яшчэ будзе шмат. Самае галоўнае — не думаць, што наперадзе шмат часу, бо ён бяжыць так хутка.

У сямнаццаць гадоў нічога не выглядае ў цёмных колерах, ні ў якім разе! Мы як дзеці радуемся першаму снегу зімой і птушкам вясной, мы смяёмся так, што, здаецца, зараз лопнем. Мы па-ранейшаму любім, калі нас абдымае мама, хваліць настаўнік, калі з сябрам бяжыш навыперадкі ў сталоўку. Свет здаецца такім вялікім, такім прыгожым! Першае спатканне, выпускны, танцы пад начным небам з сябрамі — усё хочацца запомніць, каб у старасці паглядзець на нашы маладыя твары і вочы, поўныя надзей, і быццам зазірнуць у сэрцы, поўныя любові да ўсяго навокал: і да вусеня, што паўзе побач, і да зорак, якія далёка, і да кожнага чалавека на Зямлі.

Цяпер нават думка, што мы калісьці будзем дарослымі і сур'ёзнымі, здаецца неверагоднай. Вунь той хлопец з чубам збягае з урока, каб пагуляць у камп'ютарную гульню, а праз дзесяць гадоў ён будзе спяшацца з працы, каб забраць сына з дзіцячага садка. А дзяўчынка з хлопчыкам з твайго класа, якія адзін аднаго не выносілі, возьмуць шлюб. А вунь тая дзяўчына, якая ніколі не была выдатніцай, стане кандыдатам навук. Для кожнага з нас у Бога ёсць план.

У час, калі ўсё пачынаецца, слухай сваё сэрца і змагайся за сваю мару. Я пішу гэта, ведаючы, што шмат для каго гэта проста словы, падобныя да многіх «псіхалагічных і жыццесцвярджальных» артыкулаў, якія так раздражняюць тынэйджараў. Але нехта пазнае сябе ў гэтых думках і пачуццях звычайнай сямнаццацігадовай дзяўчынкі.




# Relikt — шчыры гурт

***За дзесяць гадоў, што ён існуе, хлопцы выпрацавалі свой стыль, знайшлі верных слухачоў, набраліся досведу ў музычным свеце і галоўнае — цяпер добра ведаюць, што рабіць далей. Аляксандр Дземідзенка, бубнач гурта, кажа: «Я не лічу вялікім дасягненнем, што нам ужо дзесяць гадоў. Але, я лічу, класна, што мы трымаемся разам і нават не маем думкі спыніцца».***

**— Ці вымалеваўся ў вас партрэт вашага слухача?**

*Аляксандр Дземідзенка:* Нашы думкі і энергія ўвасабляюцца ў нашай музыцы і прываблiваюць падобных да нас людзей. Таму нашы слухачы, скажу без сціпласці, вельмі прыгожыя людзі — як вонкава, так і ўнутрана. Яны таленавітыя,

## Урок музыкі

Майму брату Яну дванаццаць, апошнім часам ён ходзіць у музычную школу без асаблівага жадання. Але адсутнасць інтарэсу да музычнай навукі не перашкаджае яму дасягаць поспеху. Асаблівую цікавасць ён захаваў толькі да вакалу, але ўрокі па фартэпіяна, сальфеджыа і музычнай літаратуры наведвае спраўна. Калісьці і я прайшла такі шлях. На працягу васьмі гадоў іграла на скрыпцы, але асаблівага задавальнення не адчувала. Затое цяпер ганаруся тым, што скончыла музычную школу.

У кожнага свой шлях да музыкі, я яшчэ ў першым класе разумела, што збочу з яго, а вось Ян і многія іншыя дзеці плануюць быць прафесійнымі музыкамі. Большасць маладых вакалістаў сур'ёзна ставіцца да інструмента і тэорыі. Я хачу расказаць пра сваіх любімчыкаў на дзіцячым музычным Алімпе і пра іх адносіны з музычнымі школамі.

інтэлігентныя, разумныя, наколькі я магу бачыць гэта з-за сваіх бубнаў. Гэта тыя, каго цікавіць нетрывіяльная музыка, якая прымушае па некалькі разоў пераслухаць і далучацца да яе думкамі.

*Зміцер Наркевіч:* Збольшага гэта маладыя людзі — ад 16 да 40 гадоў, зацікаўленыя жыццём. Тыя, хто любіць даведвацца новае, мае актыўную пазіцыю, займаецца цікавымі справамі, любіць хадзіць на імпрэзы…

**— Якім чынам вы знаходзіце аўтэнтычны матэрыял для сваіх песень?**

*Аляксандр:* Ёсць розныя шляхі, якімі можна натрапіць на яго: проста адшукаць у інтэрнэце ці самім запісаць ад першакрыніц — бабулек. У нашым выпадку бывала і так, і гэтак. Яшчэ ў нас ёсць сябры, якія займаюцца гэтым больш прафесійна. Напрыклад, Сяржук Доўгушаў (гурт VuRaj) ездзіць у экспедыцыі, мае свае крыніцы, можа падзяліцца з намі песнямі. Хочам пасупрацоўнічаць са Студэнцкім этнаграфічным таварыствам, ужо для новых рэлізаў. Для нас найбольш прывабны шлях — самім ездзіць у экспедыцыі. Песня «Сваточкі», якая ўваходзіць у наступны рэліз, — якраз тое, што мы «сабралі» самі.

Увогуле, песні мы адбіраем па ўнутраным адчуванні — што бліжэй да настрою, да нашага ўласнага гучання. І мы іх перапрацоўваем — не пакідаем арыгінал, а бяром ад яго падмурак, на якім будуем сваё.

**— Раскажыце пра самы першы свой канцэрт.**

*Аляксандр:* 2001 год, Светлагорск, пяцігоддзе светлагорскага рок-клуба. Вельмі моцны быў канцэрт, там выступаў гурт Happy Face, якім мы захапляліся, бо лічылі, што граем грандж. Было суперстрашна, але збольшага прайшло ўсё добра, назаўтра пра нас напісалі ў газетах. Мне было 15 гадоў, я вучыўся ў 9 класе. Зразумела, былі вельмі моцныя ўражанні, і было адчуванне, што вось зараз пачнецца новае жыццё, звязанае з музыкай. Жыццё новае сапраўды пачалося, але ўсё атрымалася не так, як я ўяўляў, калі быў падлеткам.

*Віталь Макшун:* Маё першае выступленне — кватэрнік у 2010 годзе. Мы прыдумалі такі жарцік: мяне не прадстаўлялі як удзельніка гурта. Хлопцы зайгралі некалькі песень, а я сядзеў як слухач, а потым яны запыталіся: «Хто ведае нашы песні?» І я тут такі: «Я ведаю!» Гэта і было маё першае выступленне. Хтосьці пасля казаў, што доўга верыў, нібы гэта не ўдзельнік гурта, а проста прыхільнік прыйшоў і зайграў. Жарт атрымаўся.



***Хелена Мерааі***

Хелена не проста незвычайна прыгожая дзяўчына — яна пераможца конкурсу «Маладыя таленты Беларусі — 2015». Вучыцца ў музычнай школе № 8 імя Р. Р. Шырмы, на харавым аддзяленні. Інструмент — фартэпіяна. Дзяўчына прызнаецца: «Іграць на інструменце вельмі люблю, таму што ўсё, што з'яўляецца музыкай, мае вялікае значэнне ў маім жыцці». На маё галоўнае пытанне — чаму менавіта школа № 8 — адказвае з усмешкай: «У музычную школу адвёў мой выкладчык з гімназіі. Таму асаблівага выбару ў мяне не было. Але школу сваю я люблю і нічога не хачу мяняць».

*Зміцер*: У мяне першы канцэрт — трыб'ют Nirvana ў Гомелі, таксама ў 2010 годзе, маё першае выступленне ў якасці бас-гітарыста. Нічога асаблівага не памятаю, добра адыгралі і ўсё. На наступных канцэртах змяніўся інструмент: здаецца, не мая бас-гітара была, у знаёмага пазычыў.

*Уладзімір Казлоў:* Я прыйшоў у гурт у 2005 годзе, мне было 19. Выступалі ў Магілёве, у навучальнай установе. Адзіны канцэрт, калі мы выступалі з «хэндмэйд мэйк-апам» — размаляваныя фарбай, цікавыя самі для сябе і з перакананнем, што гэта крута. Я лічу, што на фоне сучасных гуртоў мы вылучаемся, але ўжо не мэйк-апам, а музыкай.

**— У якіх умовах вы запісвалі першы альбом?**

*Аляксандр:* Гэта быў наш першы вялікі досвед. Было лета 2005 года, я памятаю, што мы кожны дзень хадзілі да нашага сябра, Аляксея Сушанцова, які прафесійна займаецца гуказапісам у Светлагорску. Проста адурылі яму галаву, эксперыментавалі, шукалі той гук, які хацелі, пісалі, дапісвалі, капалі вадзічкай у тазік, каб запісаць нейкія эфекты, чыталі нейкія часопісы, каб дадаць фонавыя размовы ў песню. Гэта было класна, цікава, смешна. А мой уласны першы запіс быў яшчэ да далучэння Вовы, мы пісалі на пульт, на хромавую касету, 90-хвілінную. Я маю гэтыя запісы ў сваіх архівах, але мы іх пакуль нікому не паказвалі. Там нармальныя запісы, мне не сорамна.

**— Ці ёсць якія-небудзь адмысловыя хітрыкі ў раскрутцы гурта?**

*Аляксандр:* Я думаю, што галоўнае — нармальна граць, не халтурыць — гэта самы просты і адначасова цяжкі шлях, бо гэта праца з дысцыплінай. Канешне, калі ты малады, хочацца больш патусіць, пагуляць, чым пасядзець з гітарай ці пачытаць нейкую музычную тэорыю пра гармонію, мелодыю ці тое, як пісаць кампазіцыі. Спачатку варта навучыцца граць, а потым абставіны будуць падказваць, куды рухацца ў сваім прасоўванні да слухача. Працаваць шчыра, без падману, ствараць прыгожае і разумець, навошта ты гэта робіш. Рабіць так, каб было цікава самому, але і глядзець на людзей, каб усведамляць, што ты не паглыбіўся ў свой свет, а рэагуеш на рэчаіснасць, зацікаўліваеш іншых.



***Саша Мінёнак***

Шчыра скажу, ад Сашы я ў захапленні: у сваім узросце — дванаццаць гадоў — ён ужо прадставіў нашу краіну на міжнародным конкурсе «Новая Хваля — 2015». Займаецца ў агульнаадукацыйнай школе з музычным ухілам. Як высветлілася, гэта школа № 115 горада Мінска, якую некалі скончыла і я. Раней хлопчык жыў у Віцебску, дзе два гады займаўся ў вучылішчы І. І. Салярцінскага па класе акардэона. Дома грае на сінтэзатары і кожную нядзелю займаецца сальфеджыа з рэпетытарам. Ён разумее: аднаго вакалу недастаткова для таго, каб стаць паўнавартасным музыкам. Саша — досыць прасунуты малады чалавек, што не ўласціва большасці ў яго ўзросце. Ён ужо нават вырашыў, чым зоймецца ў перыяд мутацыі голасу. «Бацькі кажуць, што акурат з'явіцца больш вольнага часу, так што я вырашыў навучыцца добра граць на фартэпіяна і абавязкова здзейсніць мару — асвоіць барабаны». Саша хоча паступаць у музычны каледж на эстрадна-джазавае аддзяленне.



**— Ёсць шмат уяўленняў пра рок-музыку і музыкаў, а як вам бачыцца рок-філасофія знутры?**

*Аляксандр:* Мы гурт, які выкарыстоўвае традыцыйныя для рок-музыкі інструменты, у літаральным і пераносным сэнсе. Калі мы бяром сапраўды вартых, глыбокіх музыкаў, а не тых, якія прагнуць славы, то гэта творцы, якія сапраўды любяць людзей, таму што ахвяруюць сябе дзеля іх, бо цяпер няшмат каму ўдаецца нармальна жыць з рок-музыкі, і робяць гэта дзеля высокай мэты — ствараць музыку, мастацтва, культуру. Гэта валанцёрства — таму што ты не ведаеш, што ты атрымаеш, але хочаш рабіць добрую справу — музыку для людзей. Арыгінальны падыход — больш цяжкі шлях, але гэта адзіны правільны шлях, калі мы, зразумела, кажам пра незалежную музыку, а не пра прадзюсарскі шоу-бізнесаўскі праект — там іншыя размовы і законы, да якіх мы не маем дачынення. Цяжка быць арыгінальным гуртом, але толькі першыя 10 гадоў, а потым — нармальна.

**— Парайце, як пераадольваць перашкоды, якія з'яўляюцца на шляху творчых людзей.**

*Зміцер:* Першае, трэба вучыцца знішчаць перашкоды на ўласным узроўні. Калі ты недзе паленаваўся, нешта зрабіў не падумаўшы, гэта адгукнецца. Калі ты навучышся рабіць рэчы беспамылкова, калі навокал будуць разумныя людзі, парады якіх ты будзеш слухаць, з якімі будзеш нешта абмяркоўваць, не будзеш ленавацца рабіць дробныя справы, з якіх складаюцца вялікія, тады ты сам сябе выхаваеш так, што знешнія праблемы, іншыя людзі не будуць на цябе ўплываць. Варта пачынаць з сябе, а не шукаць праблемы ў іншых. Трэба быць падрыхтаваным да іх, ведаць, як рэагаваць.

***Кацярына Захарэвіч***
***Фота за архіва гурта***



***Ганна Зайцава***

Ганну таксама ведаюць не толькі ў Беларусі. Яна двойчы прызёр нацыянальнага адбору «Песня для Еўрабачання», удзельніца шоу «Х-фактар», стыпендыят прэзідэнцкага фонду па падтрымцы таленавітай моладзі. Сёлета дзяўчына заканчвае музычную школу па класе фартэпіяна. Займаецца ў дзіцячай музычнай школе № 19 і ў харэаграфічнай школе мастацтваў. Пасля плануе працягваць адукацыю ў каледжы мастацтваў.

Людвіг ван Бетховен казаў: «Сапраўдны творца пазбаўлены ганарыстасці, ён занадта добра разумее, што мастацтва невычэрпнае». Гэтак і мае героі: усе яны, нягледзячы на свае вялікія поспехі, агучваюць адну думку: «Я мару стаць музыкам». І ў гэтым слове «мару» тоіцца ўся сур'ёзнасць іх намераў. Сябры не збіраюцца спыняцца на дасягнутым, і я веру: у іх усё атрымаецца. У маіх вачах яны ўжо самыя сапраўдныя музыкі.

***Яна Мусвідас***

# Апошнія падзеі зямнога жыцця Ісуса

***Заданне: на ўсіх выявах упішы ў кружкі адпаведныя падзеям лічбы. На карце Іерусаліма ты знойдзеш месцы, дзе падзеі адбываліся.***











**1.** Уваход у Іерусалім.
**2.** Памазанне мірам.
**3.** Здрада Іуды.
**4.** Мыццё ног вучням.
**5.** Тайная Вячэра.
**6.** Маленне аб Чашы.
**7.** Узяцце пад варту.
**8.** Суд у першасвятара.
**9.** Адрачэнне Апостала Пятра.
**10.** Суд у Пілата.
**11.** Суд у цара Ірада.
**12.** Апошні суд у Пілата.
**13.** Хрэсны шлях на Галгофу.
**14.** Распяцце і смерць Госпада Ісуса Хрыста.
**15.** Землетрасенне. Разрыў храмавай завесы напалам у Святая святых.
**16.** Цемра. Зняцце з Крыжа.
**17.** Укладанне ў Гроб.
**18.** Уваскрэсенне Ісуса Хрыста.
**19.** Міраносіцы каля Гроба Гасподняга.
**20.** З'яўленне Выратавальніка двум вучням на шляху ў Эмаус.
**21.** З'яўленне Госпада Ісуса Хрыста вучням пры зачыненых дзвярах.






# ПЛАН ІЕРУСАЛІМА ПАДЧАС ЗЯМНОГА ЖЫЦЦЯ ІСУСА

Шлях на Эмаус
Крэпасць Антонія
Патокі Кедрон
Прэторыя
Галгофа
Судныя вароты
Крэпасць Давіда
Гефсіманія
Храм
Палац Ірада Вялікага
Палац Ірада Анціпы
Віфанія
Дом першасвяшчэнніка
Купель Сілаам






# Сем і дзевяць

Наталля вярнулася за парту і сцішылася, як мышка: толькі б не бачылі, толькі б не чулі, толькі б не чапалі. Ну, адказала так-сяк — і дзякуй! Думаеце, лёгка ёй было на фоне дваццаці разумнікаў і разумніц паказваць свае далёка не значныя поспехі ў засваенні сусветнай гісторыі?

Не, яна не камплексавала наконт сярэдняга IQ, прызвычаілася ўжо. Проста не любіла, калі пра гэта нагадвалі ўсяму класу. Матулі чарговы раз дзякуй — менавіта яна ўсімі сіламі імкнецца ўтрымаць Наталлю ў гімназіі. А інтэлектуальныя праблемы дачкі не жадае заўважаць:

— У такой сям'і проста не можа быць чалавека з сярэднімі здольнасцямі, паверце мне на слова!

І навакольныя вераць. Або спрабуюць верыць. Ці не спрабуюць, але не спрачацца ж з доктарам навук. А ў сям'і ўсе дактары навук: і мама, і тата, і бабуля з дзядулем. Усе яркія, цікавыя, вельмі здольныя ў выбраных сферах. Вось толькі з Наталляй ім не пашанцавала: ці ў сям'і не без вырадка, ці не без белай вароны.

Вырадкам сябе Наталля не лічыла, варона ўсё ж такі менш крыўдна гучыць. Бывае нават як камплімент. У сэнсе арыгінальнасці выяўлення сябе. Праўда, пакуль з арыгінальнасцю не склалася. Сем і дзевяць — сярэдні бал, ні аднаго любімага прадмета.

Хутка іспыты — бывай, дзявяты! А там, пагаворваюць, яшчэ цяжэй — вышэйшая матэматыка, вышэйшая хімія, вышэйшая біялогія. Эх, зрэзацца б адразу, яшчэ на тэсціраванні. І пайсці куды-небудзь у каледж — адпачыць ад завучак і геніяў.

Канешне, вы скажаце, у каледж можна і пасля дзевяці класаў паступіць. Але бацькі і чуць пра гэта нічога не хочуць. І наконт спецыяльнасці Наталля сумнявалася: і ветэрынар, і цырульнік (яна баялася нават уявіць рэакцыю маці на гэтую

спецыяльнасць), і сакратар-рэферэнт, і страхавы агент, і афіцыянт-бармен — пакуль што гучалі ў яе разуменні незнаёмай песняй, якая хвалюе.

***Атмасфера зямнога шара важыць 5 300 000 000 000 000 тон. На перавозку гэтага грузу цягнікамі з Масквы ў Мінск трэба было б затраціць 4 млрд гадоў.***

Нядаўна ў клас прыходзіў псіхолаг, папярэдзіў аб праходжанні тэстаў па вызначэнні прафесійных пераваг. Згадаў, што вынікі абмяркуюць на бацькоўскім сходзе. Наталля захвалявалася. Можна, безумоўна, пакінуць маці і бацьку ў шчаслівым няведанні (яны і так не часта наведвалі школу ў сувязі з надзвычайнай навуковай занятасцю), але самой як вызначыцца?

Жыццё, па сцвярджэнні класікаў, цудоўнае і дзівоснае. Здаецца, Наталля штосьці прапусціла. Хацелася спадзявацца, што не назаўсёды. Пражыць жыццё пасажырам, які спазніўся на цягнік, — не найлепшы варыянт.

Погляд паплыў па класе. Сканцэнтраваныя твары, падаконнік у кветках, яркія нататкі на стэндах, спісаная правіламі дошка, прачыненыя дзверы.

Як не памыліцца?

***Сімпатулька:***

— Як я цябе разумею! Мне таксама вучоба не надта даецца. Праўда, аднакласнікі ўсё разумеюць — кожны на сваёй хвалі. Каму фізіка не даспадобы, дык ён на літаратуру націскае. У каго з матэматыкай праблемы — той спрабуе здзівіць свет ведамі па геаграфіі. Кожны працуе на сярэдні бал — паступаць усё роўна прыйдзецца. Слухай, можа, перайсці табе ў наш клас? Не пакрыўдзім. І свет не клінам сышоўся на вучобе. Мне, напрыклад, хочацца стаць візажыстам. Я нават на курсы запісалася, ведаеш, як цікава? Шукай сябе!

***Першакласнік з яблыкам:***

— Цяжкавата, здаецца, у старэйшых класах вучыцца. Прыйдзецца і мне на вучобу націснуць. Дзякуй за папярэджванне! Яблычкам падзялюся, хочаш? Салодкае…

***Шкодная вучылка:***

— Правільны курс твае бацькі ўзялі. Так што прытрымлівайся яго. Запішыся на стымуляцыйныя або факультатыўныя заняткі. Ну, выдатніцай, магчыма і не станеш, але да тэсціравання падрыхтуешся якасна. Здасі прыстойна, а там і да ўніверсітэта рукой падаць. А стараннасць і атрыманая ў школе сістэма ведаў дапамогуць стаць паспяховай студэнткай. І запатрабаваным спецыялістам. Галоўнае, не хныч, не адцягвай, а бярыся за вучобу зараз.

***Прасунуты старшакласнік:***

— Усё не так дрэнна. Спярша звярні ўвагу на ўстановы дадатковай адукацыі. Яны прапануюць некалькі соцень паслуг. І некалькі дзясяткаў профіляў.

Упэўнены, знойдзецца і для цябе штосьці цікавае. Спорт, мастацкая і тэхнічная творчасць, інтэлект (а ён бывае такім розным), сацыяльнае лідарства, псіхалогія, сучасныя камунікацыі, турызм.

Не шкодзіла б звярнуцца да псіхолага, ён дапаможа вызначыць кірунак асобы і параіць, куды пайсці. А далей — займайся творчасцю, прыдумляй, спрабуй! Адчуй смак поспеху! Павер у сябе. Намець мэту і кроч да яе. І чытай пра гэта болей. Зараз многія паспяховыя людзі дзеляцца сваім вопытам. Трэба толькі загугліць у нэцэ: «Як стаць паспяховым?» Раю з таго, што сам прачытаў, звярні ўвагу на запіскі Біла Гейтса і Сцівена Кінга, спадзяюся, што гэтыя імёны табе знаёмыя. І не думай пакідаць гімназію, твае «сем і дзевяць» у сярэдняй школе пацягнуць на дзявятку, так што не сумуй. Дзейнічай! Я веру: у цябе атрымаецца.

***Вопытны псіхолаг:***

— Згодная з прасунутым прыяцелем. Трэба рухацца. І забудзься пра комплексы. З усімі тваімі недахопамі бацькі цябе любяць і вераць у цябе. Дарэчы, і генетыку яшчэ ніхто не адмяняў. Вызначся з тым, чаго хочаш (для гэтага існуе шмат вельмі эфектыўных методык і тэставых праграм; будуць цяжкасці, разбяромся разам) і націсні на моцныя бакі твайго «я».

Трэба выбраць адукацыйны маршрут, потым падумаць пра працаўладкаванне і кар'еру. Напрыклад, ты хочаш стаць добрым эканамістам, а з матэматыкай (логікай) ёсць пытанні. Значыць, трэба вызначыцца: ці працаваць над прадметам, ці улічыць свае дасягненні ў літаратуры і пераключыцца на пабудову кар'еры, звязанай з журналістыкай або выдавецкай справай. Кіраўніком можна стаць у любой сферы.

Дарэчы, далёка не ўсім трэба кіраваць. Можна дасягнуць поспеху і без вяршынь кар'ернай лесвіцы.

Урэшце, не будзем зазіраць так далёка. Спачатку трэба пасябраваць з часам. Улічвай: паспяховы чалавек не толькі пунктуальны, але і ведае кошт часу — вучыся кіраваць сваімі хвілінамі. Другое — не мае сэнсу баяцца адказнасці.

Поспеху дасягаюць толькі тыя, хто сам праяўляе ініцыятыву і можа вучыцца на сваіх памылках. Потым прыйдзецца канцэнтравацца на рашэнні адной-дзвюх канкрэтных задач. Падцягнуць прадмет, прапанаваць настаўніку альтэрнатыву адказу — рэферат, цікавую прэзентацыю, даследаванне. Наведаць дадатковыя заняткі. Стаць памочнікам у важнай справе. Улічвай, асабістыя адносіны ніхто не адмяняў.

Далей яшчэ прасцей: трэба заняцца знешнасцю, звычкамі, паводзінамі. Імідж, канешне, не ўсё, але поспеху ён сябар. Наогул, удзяляй больш увагі знешнасці — яна здольная ствараць цуд.

Што яшчэ? Не забудзься пра здароўе — добры фізічны і псіхалагічны стан спрыяе поспеху. Развівай пачуццё гумару і харызму.

Дарэчы, Гейтс і Кінг — тыя, чый досвед мае сэнс вывучаць. Прачытай пра іх у вольны час. Не зашкодзіць.

# «Запісваем дамашняе заданне…»

***Ну хто з нас не сядзеў увечары, галаву схіліўшы, над дамашнім заданнем і не марыў, каб яно знікла? На жаль ці на шчасце, яно не знікала… Не так даўно Рэспубліканскі цэнтр гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя выказаў прапанову адмяніць «дамашку». Пра гэта і іншае я падслухала ў настаўніцкай Свіслацкай гімназіі, калі размову вялі Алена Пятроўна Супрун, настаўніца англійскай мовы, Таццяна Юр'еўна Каскевіч, настаўніца беларускай мовы, і Святлана Уладзіміраўна Філатава, настаўніца біялогіі.***

***А.П.:*** Я мяркую, што перш за ўсё трэба не дамашку адмяняць, а выпраўляць падручнікі. Каб падрыхтавацца да ўрока, трэба шукаць практыкаванні і інфармацыю ў інтэрнэце і кнігах замест таго каб знаходзіць усе патрэбныя заданні і правілы ў адным падручніку. Наогул, большую частку ведаў дзецi павінны атрымліваць на ўроку, каб дома толькі ўзнавіць іх у памяці.

***С.У.:*** Без дамашняга задання нельга абысціся. Каб вучні хоць што-небудзь запомнілі, настаўніку трэба паўтарыць шмат разоў тое, што толькі што растлумачыў. І чым больш — тым лепш. І зразумела, калі вучань прачытае тую ж інфармацыю пасля дома, самастойна, — тады толькі веды ў яго застануцца. Мабыць, толькі ў профільных класах пасля дзявятага можна адмяніць дамашняе заданне па прадметах, якія ў профіль не ўваходзяць, — каб вучні маглі засяродзіцца на дысцыплінах, патрэбных для ЦТ.

***Т.Ю.:*** Не кожны вучань мае здольнасць зразумець усё на ўроку. Таму, лічу, неабходна добра замацаваць атрыманыя ў школе веды дома. Адчуўшы, што атрымалі свабоду, вучні разлянуюцца канчаткова. І так амаль усе спісваюць. Я б з вялікім задавальненнем павыдаляла ўсе гэтыя іх рашальнікі, якія дазваляюць нічога не рабіць, а проста спісаць заданне ў інтэрнэце.

***С.У.:*** Сённяшнія магчымасці вучняў ды ў маё б дзяцінства! Цяпер, калі чагосьці не ведаеш, проста зайдзі ў пошукавую сістэму — і адразу будзе адказ. У мае школьныя гады трэба было ісці ў бібліятэку і пералапаціць вялікі стос кніг, каб знайсці адказ на сваё пытанне.

***А.П.:*** А мне не так важна, спісвае вучань ці не, розныя бываюць акалічнасці ў жыцці. Калі ён можа патлумачыць, чаму ў сказе адбываецца менавіта гэтая з'ява ці ўжываецца гэты час — вельмі добра, веды


Я б з вялікім задавальненнем павыдаляла ўсе гэтыя іх рашальнікі, якія дазваляюць нічога не рабіць, а проста спісаць заданне ў інтэрнэце





КУДЫ ІДЗЕ ЭВАЛЮЦЫЯ?

ў галаве ёсць. Але бяздумна спісваць — марнаваць час. Заўсёды ёсць настаўнік, які можа патлумачыць.

***Т.Ю.:*** Адзін раз спісаць у сябра — гэта, канешне, не злачынства. Злачынства — калі бяздумна, толькі каб адчапіліся настаўнікі. Напрыклад, я ў школе амаль што не спісвала, часцей спісвалі ў мяне. Мабыць, толькі фізіку, бо зусім яе не разумела. Гэта было дваццаць гадоў таму… Хацелася б, каб дзеці разумелі, што настаўнікі — тыя ж самыя вучні, мы ўсё разумеем.

***А.П.:*** І я не любіла ў школе фізіку. На экзамене ведала толькі адзін білет, які, на жаль, мне не трапіўся. Часам і спісвала, шмат чаго здаралася ў школьныя гады… Але была вельмі адказнай вучаніцай, абуралася, калі што-небудзь не разумела.

***С.У.:*** А вось я ў школе не спісвала, проста не было адкуль. Класы такія былі: 5 выдатнікаў, 5 харашыстаў і некалькі троечнікаў. У каго спісваць, у такога ж выдатніка, як і ты? А цяпер выходзіць выдатнік да дошкі і маўчыць. Які ён выдатнік? У нашы часы сумленне нават не дазволіла б маўчаць. Куды ідзе эвалюцыя?

***Т.Ю.:*** Адзін раз можна спісаць у сябра. Добра, калі ёсць такі сябар. Але калі што-небудзь вучню не зразумела, настаўнік з задавальненнем яму дапаможа, трэба толькі спытаць.

***Падслухала Ганна Варонка***

***Мастачка Юлія Усава***

ЗЛАЧЫНСТВА — калі бяздумна, толькі каб адчапіліся настаўнікі…

# Першага красавіка,
## або Тканінавая лялька з парцэлянавымі вачыма

Пашка і Аня хаваліся ў кладоўцы.

Блізняшкі-першаклашкі Цімка і Дзімка звычайна гулялі ў ёй па абедзе, а сёння 1 красавіка, і Пашка падгаварыў Аню пажартаваць над малечай.



*Аркаша, прывід*

*Страшныя гісторыі з нумара ў нумар*

План быў просты: як толькі малыя аб'явяцца каля кладоўкі, з яе выскачыць парачка прывідаў у белых прасцінах.

Прасціны Пашка выцягнуў з карзіны для бруднай бялізны. Заставалася ў іх закруціцца і чакаць.

— Уяўляеш, як яны закрычаць!

— А раптам яны разравуцца?

— Яшчэ і як разравуцца! А мы пасмяёмся.

— Мне страшна, — сказала Аня.

Пашка яе не зразумеў. Твар дзяўчынкі сапраўды выдаваў страх.

— Чаго ты? Забаўна ж!

— Я пра іншае. Гэтая лялька. Мне не падабалася, як яна пазірае, і я перавярнула яе. А цяпер яна зноў на спіне!

Пашка хмыкнуў. Побач з Аняй сапраўды ляжала лялька. Трошкі дзіўная: сама з тканіны, а ярка-блакітныя вочы — з нечага цвёрдага, пластыку або парцэляны. Лялька пазірала на хлопчыка.

— Што за лухта! — раззлаваўся Пашка. — Не магла нічога лепшага прыдумаць першага красавіка?

Ён кінуў ляльку ў скрыню з канструктарам. Тут у пакоі пачуліся крокі малых. Але блізняты не збіраліся заходзіць у кладоўку. Нечым пашамацелі і зніклі.

— Ну вось, — сказаў Пашка. — Цяпер чакай, калі вернуцца…

Нешта кранула яго за нагу. Пашка зірнуў: да яго дакранулася рука лялькі. Яе вочы пазіралі на хлопчыка.

Па спіне пабеглі мурашкі! Хлопчык адпіхнуў ляльку нагой і злосна зірнуў на сястру.

— Ну, ведаеш!..

Аня сядзела, сціснуўшыся ў спалоханы камячок, каля самай сценкі і бязгучна плакала.

— Паша, гэта не я. ЯНА САМА! Хадзем адсюль!

„

*Заканчэнне страшнай гісторыі чытайце ў праекце «Бярозка плюс» на www.maladost.lim.by/berezka*

# Пажэжынскі Цар-Дуб

У Брэсцкай вобласці, у Пажэжынскім лясніцтве Маларыцкага раёна стаіць Цар-Дуб. Гэта самае старое дрэва Беларусі, якому ўжо больш за восем з паловай стагоддзяў. Падумайце, колькі пакаленняў людзей паспела змяніцца за такі час!

Карані Цар-Дуба глыбока ў зямлі, а галіны ягоныя працягнуліся так высока да неба, што лістотай сваёй гэтае магутнае дрэва амаль дакранаецца да аблокаў. Многае давялося пабачыць Цар-Дубу, многае перажыць на доўгім сваім вяку. Але ні капрызы прыроды, ні дзейнасць чалавека не змаглі яго зламаць…

Вельмі даўно на сырую зямлю звалілася насенне нейкага вельмі старога дуба, магчыма, самы апошні жолуд з дрэва, якое вось-вось павінна было загінуць. Доўга жолуд ляжаў у зямлі, набрак вільгаццю, назбіраў моцы, каб прабіцца на свет. І вось аднойчы раніцай з'явіўся з зямлі маленькі зялёны парастак. Ягоныя пяшчотныя лісцікі прагна лавілі промні ранішняга сонца, ягоныя першыя карэньчыкі спраўна ўсмоктвалі ваду з глебы… І паступова кволы парастак ператварыўся ў маленькі дубок.

Быў ён не вышэйшым за суседні быльнік, але ўпарта цягнуўся ўверх, да сонца. І гэтак жа ўпарта імкнуліся ў глыбіню зямлі ягоныя карэньчыкі, каб трывала замацавацца ў глебе, не даць ветру вырваць сябе.

Усё лета рост малады дубок. І вось ужо з'явілася ў яго некалькі тоненькіх галінак з шаўкавістымі разнымі лісцікамі. І хоць дрэўца было яшчэ зусім маленькім і кволым, адчувалася ўжо ў ім нейкая сіла, што павінна была развіцца ў будучыні.

Доўга расло і ўпарта змагалася за існаванне дрэва, у якім ужо тады можна было пазнаць будучы Цар-Дуб. Раскідзістыя галіны ягоныя паступова ўзвысіліся над суседнімі дрэвамі, ад магутнага ствала адыходзілі ў глыбіню зямлі не менш магутныя карані. Ні вецер не мог вырваць яго, ні якая жывёла нашкодзіць яму…

У смарагдавай ягонай кроне вілі гнёзды лясныя птушкі, сярод каранёў рылі норкі мышы, хутка перабягалі з галінкі на галінку вавёркі. А потым туды прыйшлі людзі…

І адзін з іх, сівы і ўладарны, першым схіліў галаву перад магутным дрэвам, прызнаючы гэтым ягоную сілу. І людзі пачалі верыць, што высока ў кроне дуба жыве арол, цар усіх птушак.

Зразумеў Дуб, што людзі пачалі шанаваць яго як Бога. Вядома ж, сам Дуб ведаў, што гэта не так, але яму падабалася, што людзі прыходзілі да яго маліцца, апавядалі яму аб сваіх радасцях і самотах. А потым побач з дубам з'явілася капішча. Цяпер жыццё магутнага дрэва было звязана з людскімі лёсамі. Да дуба прыходзілі воіны перад паходам, каб ён адарыў іх сілай і мужнасцю. Прыходзілі закаханыя, каб дуб блаславіў іх. А сівыя вешчуны, прыслухоўваючыся да шапацення лістоты, прадказвалі будучыню. Так дуб прызвычаіўся да людзей. Ён радаваўся нараджэнню кожнага новага чалавека і пакутаваў, калі хтосьці паміраў. Магутнае дрэва міжволі стала сведкам многіх чалавечых жыццяў…

Але нечакана людзі пакінулі гэты край. Больш ніхто не прыходзіў да дуба, ніхто не прасіў дапамогі альбо парады. Капішча паступова ператварылася ў раз-



*На Беларусі шмат дубоў-волатаў. На здымку — адзін з іх.*

валіны і зарасло. Дзень за днём, год за годам дуб чакаў тых, хто калісьці яму пакланяўся. Але няўмольна ішоў час, прайшло стагоддзе, затым другое. Ніхто не прыходзіў да дуба, ды і самому яму не верылася ўжо ў тое, што людзі сюды вернуцца. Усё глыбей урастаў дуб каранямі ў зямлю, у вечную цемру і холад. Восень фарбавала ў золата ягоную разную лістоту, якая ападала потым плацінавым дажджом, усцілаючы ўсю зямлю вакол. Магутныя галіны заставаліся голымі, але ненадоўга. Хутка на «плечы» дуба клаўся снегавы плашч. Ён засцілаў кожную галінку срэбраным пухам, не даючы ёй замерзнуць на халодным зімовым ветры. Усю зіму стаяў дуб, апрануты ў беласнежныя футры, але вясной яны знікалі,

ператвараючыся ў звонкія вясёлыя раўчукі. Раўчукі беглі па палянцы, усмокталіся ў зямлю і даходзілі да самых глыбокіх дубовых каранёў. І зноў на вузлаватых галінках раскрываліся першыя маладыя лісточкі, якія пяшчотна трымцелі пад ветрам. І вось ужо шуміць магутная крона дуба, блішчыць усімі адценнямі зялёнага і кідае густы цень на шаўкавістую траву, што суцэльным дыванам заслала паляну.

Калі да дуба зноў прыйшлі людзі, яны былі ўражаны магутным дрэвам. Некалькі чалавек, узяўшыся за рукі, спрабавалі абхапіць ствол. Крона дуба гублялася ў нябеснай прасторы. Здзіўленыя людзі расказалі аб велікане цару. Ён сам упэўніўся ў велічы гэтага дрэва і даў яму імя Цар-Дуб.

Гады ляцяць, нібыта восеньская лістота. Вось ужо пачалася Вялікая Айчынная вайна. Дуб, ачуняўшы ад шматвекавога сну, адчуў прысутнасць чалавека. Гэта былі партызаны, якія хаваліся ў ягоным густым цені. Раптам трэск аўтаматных чэргаў, разрывы снарадаў рэхам запоўнілі ўвесь лес. Кулі ўпіваліся ў зямлю, у дрэва, у людзей. Такога жаху дуб яшчэ не бачыў. Ён запомніў гэта надоўга, у ствале ягоным засталіся нямецкія кулі.

Ішоў час… Закончылася вайна. Аб вялікім Цар-Дубе не забыліся. У 1963 годзе велікану людзі прысвоілі званне «Помнік прыроды» і зноў пачалі наведвацца да гэтага героя. Цяпер ужо дуб не баяўся, што аб ім забудуць. Здавалася, горшае ў мінулым. Але аднойчы ў яго ўдарыла маланка, што часам здараецца з занадта высокімі дрэвамі.

Вершаліна Цар-Дуба пачала сохнуць, лістота з яе ападаць. Дрэва пакутавала ад болю і нішто, здавалася, не магло яго выратаваць.

Але ў 2004 годзе неабыякавы жыхар Брэста Валянцін Балдзенка разам з сябрамі адправіўся да дуба. Нялёгкім быў іхні шлях, бо нельга было дабрацца да дуба на аўтобусе альбо легкавушцы — толькі пехатой. Людзі доўга ішлі праз маўклівы лес і амаль непраходныя балоты, але ўсё ж дайшлі да Цар-Дуба. Сумеснымі намаганнямі была спілаваная ссохлая вершаліна і пастаўлены громаадвод. Цяпер дрэву нічога не пагражала, і Цар-Дуб быў вельмі ўдзячны людзям за выратаванне.

У 2015 годзе Валянцін Балдзенка зноў сабраў экспедыцыю і накіраваўся да дрэва. Людзі праверылі громаадвод і ўмацавалі яго. Пад каранямі дуба яны пакінулі будучым пакаленням пасланне ў вершах. Дубу было прыемна, што стаў захавальнікам гісторыі продкаў. Цар-Дуб стары і мудры, але радуецца кожнаму, хто да яго прыходзіць, хто абдымае ягоны шурпаты ствол, гутарыць з ім, як з жывым, адпачывае ў цені ягонай раскідзістай смарагдавай кроны.

Так, пры доўгім жыцці пажэжынскага Цар-Дуба адбылося мноства падзей. Але колькі б ні прайшло часу, людзі памятаюць аб ім і наведваюць гэты цуд прыроды. Прыйдзі да яго і ты, спыніся побач з гэтым вартаўніком вечнасці і раскажы яму аб сабе. І магчыма, у шапаценні дубовай лістоты ты пачуеш і ягоную гісторыю.




Подпіс рэдактара

________________

***Анастасія Падсыпаннікава,***
***лаўрэат Магілёўскага гарадскога***
***конкурсу юных пісьменнікаў,***
***Магілёўская дзяржаўная***
***гімназія-каледж мастацтваў***

# Як зрабіць свой смартфон беларускім?



***Не кожная мабільная прылада «размаўляе» па-беларуску. Распрацоўшчыкі смартфонаў забываюцца пра існаванне беларускай мовы, а для некаторых карыстальнікаў адсутнасць падтрымкі «матчынай» — вялікая праблема. Як зрабіць сябрамі тэхналогіі і мову? Агляд самых цікавых і запатрабаваных беларускамоўных дадаткаў дапаможа беларусізаваць твой смартфон.***

**Мабільная версія календара «Не маўчы па-беларуску» ад кампаніі «Будзьма беларусамі!»**

Калі ты карыстаешся календаром ад «Будзьма беларусамі!», у цябе не атрымаецца пражыць без роднай мовы хоць бы адзін дзень. Новы дзень — новае беларускае слова! 366 цікавых словазлучэнняў з розных сфер жыцця дапаўняюць ілюстрацыі мастачкі Дар'і Мандзік. Мабільная версія календара была распрацаваная студыяй Ігара Назаранкі. Бясплатны дадатак даступны для карыстальнікаў iOS і Android.

**Мабільны дадатак moVa ад velcom**

Дадатак дапамагае выкарыстоўваць беларускую мову ў зносінах праз SMS і сацыяльныя сеткі, а таксама перакладаць словы з любой мовы на беларускую. Дадатак дазваляе змяніць раскладку клавіятуры і лёгка публікаваць запісы ў Facebook, «Вконтакте» і Twitter. Дадатак moVa — цалкам бясплатны, ён даступны карыстальнікам iOS і Android.

**Skarnik — беларускі слоўнік**

Афіцыйны мабільны кліент анлайн-слоўніка Skarnik.by, асновай якога з'яўляецца акадэмічны слоўнік пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы і П. Глебкі. Руска-беларускі і беларуска-рускі слоўнік ужо змяшчае больш за 100 тысяч слоў і ўвесь час дапаўняецца новымі. Карыстацца могуць уладальнікі прылад на iOS і Android.

***Даніїл Шэйка***

# Па суседству з вёскай Ясень,

## або Даследчая праца пра паходжанне назваў вёсак і ўрочышчаў, дарог і прасек Белавежскай пушчы



***Напісаць гэтую працу мне дапамог мой дзядуля, Саевіч Фёдар Канстанцінавіч, які да пенсіі працаваў ляснічым самага паўднёвага Ясенскага лясніцтва Белавежскай пушчы. Ён усё сваё жыццё прысвяціў лесу і добра ведае гэтыя мясціны.***

Згодна з яго аповедамі, вёскі вакол Белавежскай пушчы ўзнікалі ў розныя часы. Самая «старажытная» вёска з'явілася на ўсходняй мяжы пушчы і называецца Роўбіцк. Для аховы пушчы і правядзення каралеўскіх паляванняў кароль пасяліў там дзесяць сем'яў.

Пазней з'явіліся вёскі Боркі, Галені (Галы), Клетнае (Клетна), Хвалова (Хувалка) і іншыя. Усе яны сваімі назвамі нагадваюць нешталяснoe. Напрыклад, Боркі. Як ні разглядай, а бачыш слова «бор». Галы (Галені) — гэта адкрытае месца паміж лесам, прагаліна, а Клетна паходзіць ад слова «клетка»: там, магчыма, трымалі ў клетках якіх-небудзь звяроў. Вёска Хвалова першапачаткова мела назву Хувалка, якая паходзіла ад слова «хавацца» на польскай і беларускай мовах.

Ёсць сярод лясоў Белавежскай пушчы даволі вялікія паселішчы, такія як Дабраволя (каля пяцісот двароў) і Ціхаволя, якія відавочна ўказваюць на мясцовасці, дзе не было ўстаноўлена прыгоннае права.

У назве вёскі Язвіны чуюцца водгукі часу, калі пушчу засялялі плямёны яцвягаў.

Назва вёскі Хвойнікі прама паказвае на тое, што тут рос хвойны лес.

Сярод балот урочышча Нікар знаходзіцца вёска Бабінец. Бабок — гэта балотная расліна, якая, магчыма, расце вакол гэтай вёскі, на яе балотах, што і паслужыла нагодай для назвы.

ВёскаКівачына размешчана на краі балота Нікар. Калі людзі глядзелі праз балота з боку Роўбіцка, то бачылі, як у ветранае надвор'е хвоі і елкі вакол гэтай вёскі калышуцца і ківаюць вяршынямі. Гэта, магчыма, і дало вёсцы такую назву.

Вёска Белы Лясок, што раскінутая абапал дарогі Пружаны—Белавеж, з'яўляецца быццам варотамі ў пушчу. Яна атрымала такую назву ў сувязі з тым, што тут рос вялікі бярозавы гай.

Вёска Мядзвежы Лясок (пасля Другой сусветнай вайны яна не аднавілася) пабудавана была на тым месцы, дзе вадзіліся мядзведзі. У Сярэднявеччы, трэба ведаць, мядзведзь не быў вялікай рэдкасцю ў Белавежскай пушчы.

Вёска Лозкі (таксама не адноўлена пасля вайны) атрымала такую назву таму, што ў ваколіцах яе расце шмат лазы. Лазу выкарыстоўвалі жыхары вёскі для вырабу кошыкаў, лапцей, на корм жывёле.

Вёска Байкі названа па прозвішчах яе жыхароў-заснавальнікаў. Пасля вайны яна таксама не была адноўлена.

Вёска Акольнік размешчана каля пушчы, пра што і гаворыць яе назва.

А вось назва вёскі Мыльніск пакуль не атрымала свайго тлумачэння. Магчыма, яна звязана з распаўсюджваннем расліны, якая выкарыстоўвалася ў якасці мыла.

Вёска Ясень абавязана назвай вялізнаму ясеню, які рос тут, на месцы заснавання гэтай вёскі маім прапрапрадзедам Фёдарам у 1848 годзе. Прапрапрадзед працаваў у Белавежскай пушчы лесніком.

Вёскі Хідры Вялікія і Хідры Малыя атрымалі свае назвы ад прозвішча памешчыка, уладальніка гэтых мясцін, які, акрамя таго, меў маёнтак у Кобрынскім раёне з аднайменнай назвай Хідры. Некаторыя жыхары сцвярджаюць, што такая назва гэтых Хідраў, Вялікіх і Малых, узнікла ад слова «гідра» (вада), паколькі вакол іх знаходзяцца балоты, у якіх могуць вадзіцца і гідры.

Вёска Цімохаўшчына (першапачатковая назва — Грушка) была названа так таму, што тут расла тоўстая груша (дзічка), якая прыцягвала сваімі прысмакамі дзікіх жывёл, а потым і людзей, якія заснавалі вёску.

Вёскі Вялікая і Малая Дзедаўкі, магчыма, былі заснаваны даволі сталымі людзьмі.

У акрузе вёскі Сакольнікі вадзілася шмат драпежных птушак (сямейства сакаліных).

Вёска Вялікі Лес была названа так дзякуючы вялікаму лясному масіву на поўдні Белавежскай пушчы.

Вёска Дварцы названа так, таму што тут будавалі дамы вялікія, як палацы, і аздаблялі разьбой па дрэве.

Вёска Перасек атрымала такую назву ад таго, што праз яе пралягала прасека, якая выходзіла з пушчанскіх лясоў і, магчыма, працягвалася далей на поўдзень.

Гэтая прасека ад вёскі праходзіла не строга на поўнач, а на некалькі градусаў на паўночны ўсход і канчалася ў балоце квартала 901. У Сярэднявеччы гэта прасека, магчыма, мела стратэгічнае значэнне.

Вёска Дуброва з'явілася ў дубовым гаі, што прымыкаў да поймы ракі Правая Лясная.

Вёска Паўлюкоўшчына раней называлася Рагатка, таму што тут быў усталяваны шлагбаум (пункт пропуску ў Белавежскую пушчу), які ў мінулым так і зваўся — «рагаткай». Назву Паўлюкоўшчына пушчанцы не прынялі і паміж сабой заўсёды называлі вёску Рагаткай, як іх продкі.

Хутар Яленскі Бор (ён жа Жакі) быў пабудаваны ў яловым лесе. У народзе яго часцей называлі Жакі, па прозвішчах яго жыхароў.

Вёска Рэпішча, пазней Гусакі, названа па прозвішчах, якія прыжываліся ў мясцовым асяродку і ўжывалася насельніцтвам пры зносінах.

Вёска Глыбокі Вугал (ёсць яшчэ адна вёска з падобнай назвай — Глыбокі Кут) названа так, таму што тут знаходзіўся пушчанскі выступ, які ўтварыў востры «вугал». Аднак сярод пушчанцаў вёска называлася па прозвішчах яе жыхароў — Раманюкі.

Вёска Падбельскія Агароднікі славіцца тым, што тут б'юць падземныя крыніцы, і жыхары гэтай вёскі даволі паспяхова займаліся агародамі. Частка назвы «Падбельскія» была дадзена, паколькі на другім баку поймы ракі Правая Лясная знаходзіцца вёска Падбелая. Іншымі словамі гэта значыць агароднікі каля вёскі Падбелая, якую, у сваю чаргу, назвалі так дзякуючы, магчыма, пабелцы ўнутраных сцен дамоў.

Вёскам Гвоздзь 1 і Гвоздзь 2 мясцовыя жыхары далі свае назвы: Гвоздзь 1 — Грышкі, а Гвоздзь 2 — Сідуны, па найбольш распаўсюджаных прозвішчах іх жыхароў.

Вёска Пашуцкая Буда была названа так, таму што ў далёкім мінулым сюды былі перасялены рабочыя з Мазовіц, якія жылі ў будах — бараках для рабочых. Яны займаліся перапрацоўкай драўніны. Мабыць, такая буда была ўстаноўлена ў гэтых мясцінах.

Вёска Каменюкі (яна ж Каралёў Мост) была названа так таму, што тут быў пабудаваны мост праз раку Правая Лясная, па якім часта праязджаў кароль на паляванне ў Белавежскую пушчу. У пяцідзясятыя гады дваццатага стагоддзя яе перайменавалі ў Каменюкі, бо ў той час каралі не былі ў пашане.

Вёска Селішча, што стаіць на беразе Правай Лясной, носіць назву ад слова «паселішча».

Вёскі Чвіркі і Сталпавіскі, магчыма, атрымалі свае назвы пры акалічнасцях, не звязаных з пушчай.

Вёска Занавіны далучылася да месца зліцця рэк Барсучка і Правая Лясная, што таксама гаворыць пра яе размяшчэнне за ўрочышчам «Навіна».

Мясцовыя жыхары давалі вельмі дакладныя і трапныя назвы не толькі вёскам, але і ўрочышчам, і дарогам.

Урочышча «Круглы Лясок» атрымала такую назву таму, што тут растуць дубы вакол былога смалакурнага завода, які размяшчаўся там (квартал 871 «В»).

Урочышча «Саломенка» названа так таму, што ў ім працякае вузкая лясная рэчка Неравалока, падобная да саломінкі (кварталы 784-785).

Урочышча «Дубовае» знаходзіцца сярод дубовага гаю, дзе раней стаяў дом (кардон) лесніка (квартал 850 «В»).



Урочышча «Валы-вярхі» атрымала такую назву ў сувязі з тым, што падчас бурану ў лесе апынуўся статак кароў і загінула некалькі валоў, на якіх зваліліся дрэвы і іх верхавіны (валы і вярхі, квартал 813).

Ва ўрочышчы «Крыжык» падчас палявання загінуў чалавек, якому быў пастаўлены крыж на месцы яго гібелі (квартал 853 «Б»).

Падчас Першай сусветнай вайны ва ўрочышчы «Немчык» казаком рускай арміі быў забіты нямецкі разведчык, які па неасцярожнасці выйшаў на прасеку (квартал 856).

Ва ўрочышчы «Аборкі» сярод сфагнавых балот, на востраве расце сасновы бор па сухадоле (квартал 859).

Ва ўрочышчы «Зубрыца» ў даўніну пасвіліся зубры, бо там раслі смачныя для зуброў травы, у тым ліку і трава (колас) зуброўка (квартал 860 «А»).

Ва ўрочышчы «Жалабы» ёсць земляныя прагіны, якія з'явіліся дзякуючы крынічнай вадзе, што вымыла грунт. У сувязі з гэтым верхні пласт зямлі асеў і ўтварыў прагіны глебы ў выглядзе жолаба (квартал 872 «Г»).

«Сярэдні грудок» — урочышча, дзе існуюць яшчэ два грудкі сярод алёсаў, паміж якімі і знаходзіцца сярэдні грудок (квартал 872 «Г»).

Урочышча «Пацярэбы» — гэта Ясенскія сенажаці. Назва такая таму, што тут высеклі лясы пад сенажаці, пацерабілі хмызнякі (кварталы 872-873).

Урочышча «Карчунак» знаходзіцца на месцы, дзе быў высечаны лес і выкарчаваны пні на плошчы 10 га для сядзібы пад лясніцтва (квартал 873 «А, В»).

Вёска Ясень з'явілася на месцы ўрочышча Ясень, дзе рос каля кардона (дома лесніка) таўсценны ясень, вельмі высокае і магутнае дрэва (квартал 873).

Ва ўрочышчы «Навіна» была высечана частка лесу пад ворыва, што азначала новае поле — навіны (квартал 873).

Урочышча «Амелькава» атрымала такую назву таму, што там на бярозах расце шмат амялы (кварталы 873-888). Дзялянка лесу каля вёскі Ясень, калі ехаць на Шарашова, названа ўрочышчам «Лясанка», ад слова «лясок» (квартал 874).

Ва ўрочышчы «Рыначак» даўней стаяў лясны кардон, і, магчыма, на гэтым месцы гандлявалі лесам (квартал 874 «В»).



Урочышча «Багна» знаходзіцца на сфагнавым балоце каля вёскі Ясень, дзе расце шмат журавін (квартал 875).

«Воўчая яма» — урочышча, дзе адлоўлівалі ваўкоў у воўчых ямах (квартал 837»В»).

Урочышча «Стужкі» (ад слова «сцежкі») знаходзіцца ўздоўж дарогі Ясень—Акольнікі, якая праходзіць у самым вузкім месцы праз алёс, дзе раней існавала толькі сцежка да таго, як жыхары зладзілі праз алёс добрую дарогу — грэблю (квартал 858 «Б»).

Ва ўрочышчы «Печка» у далёкім мінулым выраблялі з асмолу смалу і выпальвалі вугаль з драўніны (квартал 840 «Б»).

Урочышча «Свінкі» — знакамітае месца. У ім растуць чарніцы, знаходзіцца глушцовае такавішча і пастаянна жывуць статкі дзікоў, якія кормяцца падчас паспявання чарніцамі (квартал 886).

Ва ўрочышчы «Барсобін» расце лес (бор) «асаблівы» па сваёй прыгажосці і велічы (квартал 887 «Б-Г»).

Назва ўрочышча «Глінкі» з’явілася ў сувязі з тым, што тут залягаюць белыя гліны. Яно было вядома ў наваколлі таму, што сюды прыязджалі па гліну не толькі пушчанцы. Гліну выкарыстоўвалі для пабелу сцен і столяў у дамах, а таксама вонкавых сцен, платоў і пладовых дрэў (квартал 888 «А»).

Ва ўрочышчы «Плюскаўка» цячэ лясная рэчка Плюскаўка. Пры купанні і пераходзе праз яе чалавекам або дзікімі жывёламі пад нагамі «плюскаецца» вада (квартал 893).

Ва ўрочышчы «Бярэзіна» на сенажацях расце шмат бярозы. Адсюль і яго назва (квартал 896).

Ва ўрочышчы «Заломак» мяжа пушчы рэзка мяняе напрамак з захаду на поўдзень, дзе для аховы пушчы стаяў пост (квартал 888).

Ва ўрочышчы «Клуб» на лясной паляне (плошча 3,5 га) быў пабудаваны барак для пражывання рабочых-лесарубаў у часы Польшчы. Тут сыходзілася шмат людзей, ладзілі вечаровыя гулянкі і весяліліся, як у клубе (квартал 892 «А»).

Урочышча «Воўчыя брадкі» атрымала такую назву ў сувязі з тым, што тут праходзіць лясная сцежка праз ручай, які ў гэтым месцы часта «пераходзяць» ваўкі (квартал 902 «Б»).

Урочышча «Лапскае» — гэта сенажаць па абодва бакі рэчкі Плюскаўка, пры пераходзе якой жыхары пушчы здымалі лапці, каб не намачыць іх (квартал 902 «Б»).

Урочышча «Ціхуш» ахоплівае вялікую тэрыторыю алёсу не толькі ў квартале 903, але і часткова суседнія кварталы, дзе «абсалютная» цішыня, не парушаная чалавекам.

Ва ўрочышчы «Гніліца» размешчаны забалочаныя сенажаці, месцамі зарослыя бярозай і лазой. У сувязі з багатымі і працяглымі дажджамі ў час касьбы накошанае сена часта не было магчымасці своечасова прыбраць, і яно загнівала. Адсюль ўрочышча і атрымала назву «Гніліца» (квартал 904).

Ва ўрочышчы «П'яны лужок» пушчанцы выраблялі гарэлку (гналі самагонку) і часцяком ладзілі папойкі, нярэдка вяртаючыся дадому на наступны дзень, калі цверазелі (квартал 921).

Ва ўрочышчы «Рыгарава» сенажаці размешчаны па абодва бакі рэчкі Плюскаўка, якія раней належалі ляснічаму, чыё імя было Рыгор (кварталы 911 і 912).

Ва ўрочышчы «Пад грабам» побач з грабавым гаем знаходзіліся сенажаці, якія мелі такую назву (квартал 912).

Урочышча «Яськаў груд» названа па імені лесніка, які працаваў тут даўнодаўно. Яно ўваходзіла ў яго абход і знаходзілася пад яго аховай (квартал 905).

Урочышча «Переаезд» прылягае да месца размяшчэння пераезду рэчкі Плюскаўка па дарозе Хідры—Перасек (квартал 912).

Ва ўрочышча «Ферма» ўваходзяць сенажаці, размешчаныя сярод лесу, і тыя, якія прымыкаюць да правага берага рэчкі Плюскаўка. Побач з ім раней існавала вёска Падбельскія Агароднікі, якая была адселена на выгадных для яе жыхароў умовах, з іх згоды, яшчэ у царскія часы (квартал 919).

Ва ўрочышчы «Напільнікі» на дзялянцы сенажаці па левым беразе Плюскаўкі расце асака, трохгранная трава, якая нагадвае грані напільніка, ад чаго і называюць гэты ўчастак сенакосу «Напільнікі» (квартал 919).

Урочышча «Якубчыкава» — гэта сенажаць, якая належала раней лесніку Якубу (квартал 903 «А»).

Урочышча «Таргонскае» ўяўляе сабой вельмі добры ўчастак сенажаці, за які жыхары таргаваліся, часам і лаяліся, каб займець яго ў карыстанне (квартал 903 «В»).

У квартале 840 «В» участак сенакосу названы «Казімірава» таму, што належаў лесніку Казіміру Сакалоўскаму з вёскі Хідры.

Ва ўрочышча «Жаб’е» ўваходзіць сенажаць, дзе вадзілася вельмі шмат жаб (квартал 841 «В»).

Па суседству з вёскай Ясень, дзе жыве наш дзядуля Федзя, з паўднёвага боку пушчы знаходзяцца ўрочышчы «Бунявец», «Пахуціна» і «Махавацік».

Урочышча «Бунявец» — гэта даволі вялікая лясная плошча, якая ў мінулым належала памешчыку па прозвішчы Буневіч.

Ва ўрочышчы «Пахуціна» раней сярод лесу і балот на раскарчаваных ад пнёў высечках былі невялікія дзялянкі ворных земляў.

Урочышча «Махавацік» — гэта забалочаныя, парослыя мохам месцы. Яны і абумовілі такую назву.

Вядома, многія пушчанскія ўрочышчы ўжо забытыя. З увядзеннем квартальнай сеткі (дарог) патрэба ў іх назвах адпала, бо кожны квартал займеў парадкавы нумар. Гэта вельмі важна для правядзення лесагаспадарчых і паляўнічагаспадарчых мерапрыемстваў. Але пажылыя пушчанцы часцей карыстаюцца назвамі ўрочышчаў з тых далёкіх часоў. Напрыклад, дзе страціў падчас пасьбы кароў? Адказ: «Каля “Воўчай ямы”». Дзе збіралі чарніцы ? — «Ва ўрочышчы “Свінкі”». Дзе касілі траву? — «Пад грабам», або «На “Таргонскай”».

Раней цяжка было падзяліць пушчу на абходы, аб’езды, егерскія ўчасткі і лясніцтвы, выкарыстоўваючы назвы ўрочышчаў, паколькі яны не мелі выразных межаў. Іх межы ўсталёўваліся па дарогах, сцежках, рэчках, раўчуках і балотах. І тым не менш у пушчы заўсёды праводзілі ўлік дзікіх жывёл і паляванні, а таксама і лесагаспадарчыя мерапрыемствы.

Маюць свае назвы і некаторыя прасекі, як іх называлі раней — трыбы. Напрыклад, трыб «Дубаўскі» пачынаецца ад вёскі Перасек і ідзе да ўрочышча «Дубовае» (праходзіць паміж кварталамі 850 і 851) з выхадам на паўднёвую мяжу пушчы.

Ясенскі трыб выходзіць проста на вёску Ясень паміж кварталамі 872 і 888 і сыходзіць на захад у бок вёскі Агароднікі, чаму часам яго і называлі «Агародніцкі».

«Раманюцкі» трыб — прасека або прамая дарога, якая праходзіць паміж кварталамі 909 і 916 і выходзіць на заходнюю мяжу пушчы да вёскі Раманюкі (у Глыбокі Кут).

«Іванаў» трыб праходзіць паміж кварталамі 900 і 892 да заходняй мяжы пушчы.

«Смалярскі» трыб — прасека паміж кварталамі 900 і 910.

У квартале 910 «А», што побач з прасекай, раней знаходзіўся смаляны завод, дзе здабывалі смалу.

«Платавы» трыб праходзіць паміж кварталамі 886 і 887. Ён быў прасечаны ад паўднёвай мяжы пушчы і сыходзіў на яе поўнач.

«Віскульскі» трыб пачынаўся паміж кварталамі 833 і 834 і сыходзіў на поўнач праз Віскулі да рэчкі Нараўкі.

Прасека «Яроцкага» названа ў гонар ляснічага Ясенскага лясніцтва, якога немцы ў першыя дні вайны павялі ад лясніцтва па дарозе Ясень—Акольнікі і каля гэтай прасекі на мяжы кварталаў 874 і 858 расстралялі разам з трыма чырвонаармейцамі, захопленымі фашыстамі ў палон.

«Ясенкавы» трыб праходзіць з поўдня на поўнач паміж кварталамі 831 і 832.

Мелі свае назвы і некаторыя дарогі Белавежскай пушчы. Так дарога ад вёскі Ясень да Белавежа носіць назву «Саломенская», паколькі перасякае рэчку Саломенку (рака Перавалока) і праходзіць праз лясныя масівы пушчы.

Другая дарога ад вёскі Ясень адыходзіць на захад да вёскі Каралёў Мост (пазней перайменаваны ў вёску Каменюкі) і называецца «Маставая», якую раней брукавалі, умацоўвалі для больш хуткага і камфортнага праезду па ёй.



Дарога, якая звязвае Ясень—Перасек, насіла назву «Барсобінская», паколькі праходзіла праз урочышча Барсобін у квартале 887, а дарога ад вёскі Ясень, якая праходзіла праз квартал 902 да ўрочышча «Плюскаўка» (квартал 893), носіць назву «Плюскаўская». У Белавежскай пушчы ў гэтым месцы, як ужо паказвалася раней, працякае рачулка Плюскаўка, дзе любяць браць ванны і піць ваду дзікія жывёлы.

Дарога Ясень—Акольнікі носіць назву «Стужкавая», бо праходзіць праз урочышча «Стужкі» ў квартале 858. Яна выгінаецца, абыходзячы балотца як стужачка (стужка).

Часам дарогі называліся па назве пункта прызначэння. Напрыклад, дарога ад вёскі Хідры, якая праходзіла праз хутар Зазьбы (квартал 905), называлася «Зазьбаўскай». На жаль, ужо няма гэтага хутара.

Некаторыя дарогі атрымалі свае назвы з прычыны ваенных дзеянняў. Напрыклад, Шведскае веславанне ў Ашчэпскім лясніцтве або Шабельня ў Ясенскім лясніцтве (кварталы 900; 909; 916; 922).

Аксеніна дарожка была названая так таму, што жанчына з нашай вёскі Ясень, Аксенія ганяла па ёй кароў у пушчу на лясныя пашы.

Многія ўрочышчы Белавежскай пушчы атрымалі назвы ў сувязі з паляваннямі. Так, напрыклад, урочышча «Пераpoў», дзе павінна было адбыцца паляванне цара на равучых аленяў, было названа так таму, што да прыезду цара алені перасталі раўці, пераpaўлі і ўжо не равуць.

Побач з Пераровам знаходзяцца знакамітыя Віскулі. Тут да будаўніцтва дзяржаўнай дачы знаходзіўся лясны кардон, дзе жылі два леснікі.

Назва Віскулі, хутчэй за ўсе, з’явілася з прычыны палявання на дзікоў з удзелам сабак, якія напалі на дзікоў, і тыя, абараняючыся ад сабак, вішчалі (у тыя далёкія часы прынята было казаць пра «віск» кабаноў).

Гэтыя мясцовыя назвы адносяцца ў асноўным да паўднёвай часткі Белавежскай пушчы, а вывучэнне яе паўночнай часткі плануецца правесці на летніх канікулах.

***Лізавета Саевіч, 7 «А» клас, гімназія № 29, Мінск***



# Сымон-музыка: selfmademan

З творчасцю Якуба Коласа ў мяне стасункі асаблівыя. Гэта быў першы беларускі літаратар, якім я сур'ёзна зацікавіўся яшчэ ў раннім дзяцінстве, калі толькі навучыўся чытаць. Застаецца ён № 1 у спісе беларускіх класікаў і цяпер. Хутчэй за ўсё, будзе пад гэтым нумарам заўжды.

Знаёмства з класікам адбылося ў вельмі раннім узросце. Першы твор, які я прачытаў, — паэма «Новая зямля». Пазнаёміцца з ёй вырашыў не ад цікавасці да літаратуры, а таму што хацеў даведацца, як жылі «даўнейшыя» людзі ў нашым краі. Вёска Магільнае, куды я штогод прыязджаў на летнія вакацыі да бабулі, знаходзіцца зусім побач з Акінчыцамі, Мікалаеўшчынай, Новым Свержанем і Стоўбцамі. Чытанне «Новай зямлі» адкрыла для мяне цэлы свет старасветчыны — здавалася, што цяпер я, гарадскі хлапец, атрымаў нейкую сакральную веду пра жыццё мінулых пакаленняў.

Калі вучыўся ў школе, любіў чытаць-перачытваць «Казкі жыцця», якія ўпершыню пабачылі свет у 1921 годзе ў Коўне, дзякуючы руплівай працы Вацлава Ластоўскага. Знаходзячыся ў эміграцыі, Ластоўскі фактычна замяняў для беларускага эміграцыйнага асяродка шэраг дзяржаўных інстытуцый, якія займаліся ў БССР развіццём беларускай культуры.

Добра памятаю, як пазнаёміўся з паэмай «Сымон-музыка» ў старэйшых класах. У той час я не вельмі любіў літаратуру, тым больш беларускую. Але гэта паэма захапіла мяне адразу, найперш таму, што я адчуваў нейкую роднасць з галоўным героем, а яго праблемы былі актуальнымі і для мяне. Падлетку заўжды здаецца, што ён «не прыласканы нікім», жыве сам па сабе ў гэтым свеце. Па сутнасці, Сымон, як цяпер сказалі б на замежны лад, — selfmademan, чалавек, які зрабіў сябе сам. Дамогся жаданага па жыцці, прыйшоў да поспеху, кажучы сучаснаю моваю. Для мяне гэты твор Якуба Коласа не проста ўзор прыгожага пісьменства, значны і дасканалы твор беларускай літаратуры. Гэта яшчэ і добры матывацыйны тэкст, які вучыць самаразвіццю і самаўдасканаленню. Ён паказвае, што кожны чалавек, нават самы просты, можа кінуць выклік лёсу і перамагчы. Узяць яму належнае.

Як вядома, Якуб Колас у 1925 годзе апублікаваў трэцюю рэдакцыю паэмы. Гэтаму папярэднічала складаная і амаль дэтэктыўная гісторыя. У 1923 годзе аўтар вырашыў пераглядзець паэму, над якой працаваў з 1911 па 1918 год і якая часткова ўжо друкавалася ў розных выданнях. Але ў ліпені 1924 года рукапіс з новай рэдакцыяй быў скрадзены, калі Якуб Колас вяртаўся ў Беларусь з Кіславодска, дзе быў на адпачынку. Нягледзячы на яго запыты адносна скрадзеных рэчаў, нічога пра іх лёс яму даведацца не ўдалося. З гэтай прычыны прыйшлося пачынаць усё нанова, што і зрабіў аўтар у жніўні таго ж года. Адышоўшы ад першапачатковай канцэпцыі, ён перарабляе дзве трэці ранейшага тэксту нанова.

У многім дзякуючы гэтаму твору я захапіўся гісторыяй ранняй БССР, перыядам, калі ў краіне займела шырокае развіццё палітыка беларусізацыі. Асабіста для мяне гэта адзін з найцікавейшых перыядаў у гісторыі Беларусі. За няпоўныя 10 гадоў беларускія пісьменнікі, навукоўцы, эканамісты, дзяржаўныя дзеячы паспелі зрабіць надзвычай шмат. Менавіта гэты невялікі перыяд даў тую іскарку, той штуршок, які ў рэшце рэшт прывёў да цяперашняй Рэспублікі Беларусь. Не абышлося, канешне ж, і без Якуба Коласа. Чытаючы «Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа», які склаў Міхась Мушынскі, прыходзіш да высновы, што ў гэты перыяд Канстанцін Міцкевіч вёў надзвычай актыўны лад жыцця, прымаў удзел у многіх знакавых для гісторыі нашага народа і дзяржавы падзеях, напісаў і выдаў вельмі шмат значных для беларускай і сусветнай літаратуры твораў.

***У Францыі забаронена прадаваць лялек з нечалавечымі тварамі: монстраў, іншапланецян, жудасных персанажаў казак. Лічыцца, што такім чынам зберагаецца псіхіка дзяцей.***

І тут цікава знаходзіць інфармацыю пра кантакты любімых пісьменнікаў. У лістападзе 1926 года праходзіла Першая беларуская акадэмічная канферэнцыя, прысвечаная рэформе беларускага правапісу і азбукі. Прымаў у ёй удзел і Якуб Колас. На канферэнцыю былі запрошаны многія беларусы замежжа, у тым ліку і Вацлаў Ластоўскі, які на той момант з'яўляўся рэдактарам часопіса «Крывіч», які выходзіў у Ковенскай Літве.

Як ужо было згадана вышэй, дзякуючы менавіта гэтаму чалавеку ў кастрычніку 1921 года ў Коўне выходзяць асобным выданнем «Казкі жыцця» Якуба Коласа пад псеўданімам Тарас Гушча. Цяпер складана меркаваць, якім чынам Ластоўскі атрымаў рукапіс ад аўтара, паколькі той доўгі час знаходзіўся па-за межамі Беларусі і толькі ў траўні 1921 года вярнуўся ў Мінск з Курскай губерні. Хутчэй за ўсё, у гэты прамежак, паміж вяртаннем Коласа ў Беларусь і выхадам кнігі ў Коўне, рукапіс з тэкстамі быў перададзены Ластоўскаму. Другі раз кніга пабачыла свет ужо ў Мінску — яна была выдадзена ў 1926 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве Беларусі, дырэктарам якога быў тады Зміцер Жылуновіч.

Зразумела, што Колас і Ластоўскі сустракаліся і гутарылі падчас працы канферэнцыі. Бачыліся яны і пасля яе, калі Ластоўскага запрасілі на ўрачысты сход у Доме асветы 24 лістапада 1926 года, прысвечаны 20-годдзю літаратурнай дзейнасці Якуба Коласа. Прысутнічалі на ім усе вядомыя асобы таго часу: Усевалад Ігнатоўскі, Антон Баліцкі, Міхась Чарот, Язэп Дыла, Зміцер Жылуновіч, Язэп Пуш-

ча ды іншыя. Трапіў Вацлаў Ластоўскі і на больш вузкае святкаванне — «таварыскі банкет», які адбыўся 26 лістапада 1926 года ў памяшканні сталоўкі № 6 (Ленінская вуліца) а 10-й гадзіне ўвечары. Дамоў у Коўна з канферэнцыі Ластоўскі прывёз некалькі цыдулак, у тым ліку і ад Якуба Коласа: «Ці чыталі “Сымона-музыку”? Якая ваша аб ім думка?»

Ластоўскі канешне ж чытаў, прычым не толькі апошні, але і самы першы варыянт. Менавіта яму, сакратару рэдакцыі «Нашай Нівы», у сакавіку 1912 года малады паэт раскрываў планы адносна паэмы: «…калі добра пойдзе праца, то я з Вамі першым падзялюся навіною». А 16 снежня ў новым лісце наракаў на тое, што пакуль праца над завяршэннем паэмы адкладзена ў бок: «Даражэнькі Пане Вацлаве! Атрымаў я ваш ліст. Быць у Вільні цяпер не давядзецца — трэба пільна быць дома. Напісаць раней я не мог — усё німа таго часу. І гэты час так марна ідзе, што і не бачыш яго. Некалі нават напісаць ліст. Нічога я тут не зрабіў, а гэта рэжа мяне ўсё роўна, як нож. Шкода мне, што мой Сымон Музыка пакінен пасярод дарогі».

Як гэта знаёма — што сто гадоў таму, што цяпер цяжка літаратару знайсці вольны час, каб пісаць. Столькі простых бытавых і жыццёвых спраў адрываюць ад галоўнага. Але Якуб Колас здолеў не толькі дапісаць сваю паэму, тэкст якой прайшоў, як бачым, пакручасты шлях, а і паспяхова зрабіць некалькі рэдакцый першапачатковага тэксту. І тут аўтар, як і яго галоўны герой, на справе пацвярджае, што ў жыцці няма нічога немажлівага.

У 2015 годзе выдавецтва «Папуры» запачаткавала кніжную серыю «Мая беларуская кніга», якая складаецца з узорных твораў беларускай літаратуры. У канцы года пад адной вокладкай у гэтай серыі выйшлі алегарычныя апавяданні «Казкі жыцця» і паэма «Сымон-музыка» Якуба Коласа. Атрымаўся здвоены юбілей: у 2015 годзе 90 гадоў паэме «Сымон-музыка», а ў 2016 годзе 95 гадоў «Казкам жыцця».

Перачытваючы «Сымона-музыку» Якуба Коласа, хочацца шукаць сваё месца ў гэтым свеце, даведвацца новыя цікавінкі з жыцця выдатных беларускіх дзеячаў і пісаць самому. Для мяне гэта галоўнае.

***Канстанцін Касяк***

Перапынак

# Спрэчка двух сяброў

Паспрачаліся два сябры. «Б’ёмся аб заклад, — кажа першы, — што ты не вытрымаеш двух маіх udараў далонню па крышцы стала, пад якім ты будзеш сядзець. Пасля першага ж удару вылезеш!» Яны пабіліся ад заклад і першы выйграў.

*Як гэта атрымалася?*

***Адказ:***
*Ён адзін раз стукнуў па стале і сказаў: «А другі раз я стукну праз чатыры месяцы».*

# Я — МАСТАК

## № 4

Адкрыта запрашэнне для мэтраў сучаснага выяўленчага мастацтва ў рэдакцыйную калегію

У выпуску:



Я ведаю мастацтва

## Прыгожая прыйшла…



«Прыгожая прыйшла» — менавіта так перакладаецца імя адной з самых вядомых жанчын у гісторыі чалавецтва, старажытнаегіпецкай царыцы Нефертіці. Цяжка паверыць, але яе вобраз увайшоў у гісторыю культуры толькі ў 1912 годзе. У тым самым годзе, калі патануў «Тытанік», у мястэчку Эль-Амарна археолагі адшукалі майстэрню старажытнаегіпецкага скульптара Тутмаса, дзе ўбачылі некалькі выяў Неферціці ў розным узросце. Але самая вядомая — паліхромная галава Неферціці ў блакітнай тыяры, зробленая ў першай чвэрці 14 стагоддзя да н. э. Гэта вельмі адметны перыяд у развіцці старажытнаегіпецкага мастацтва, які называюць Амарнскім.

Да гэтага часу ўжо былі пабудаваны знакамітыя піраміды ў Гізе (2800 гадоў да н. э.) — адзіны з сямі цудаў свету, які захаваўся да нашага часу, з'явіліся манументальныя скульптуры фараонаў і маленькія фігуркі ушэбці, якія клалі ў магільні, каб яны абслугоўвалі фараона пасля смерці. На сценах магільняў з'явіліся незвычайныя па прыгажосці роспісы, дзе практычна ўсе фігуры былі ўвасоблены паводле старажытнаегіпецкага канона: галава і ногі ў профіль, плечы ў фас, тулава ў тры чвэрці. Але першы скульптар, імя якога мы ведаем дакладна, — гэта Тутмас, аўтар скульптурных партрэтаў Неферціці.

Старажытныя егіпцяне верылі, што людзі — гэта слёзы сонца, і фіксавалі самыя важныя падзеі ў іерогліфах, якія таксама расшыфравалі адносна нядаўна. Менавіта дзякуючы гэтым запісам стала вядома, што Неферціці прывёз у свой гарэм Аменхатэп III, які надта ж любіў хадзіць у ваенныя паходы. Калі ён загінуў, улада перайшла да ягонага сына Аменхатэпа IV, які распусціў гарэм і пакінуў сабе за жонку толькі Неферціці. Яна натхніла яго на глабальныя па тым часе рэформы. Ён абмежаваў уладу жрацоў і наблізіў сябе да Бога Сонца — Атона. Яго імя цяпер гучала як Эхнатон, Неферціці — Неферт-Неферт-Атон. У горадзе Ахетатоне храм («дом Атона») быў звязаны з царскім палацам вісячым мостам… У гэты час з'яўляюцца шматлікія рэльефы і роспісы з выявамі Эхнатона і ягонай жонкі царыцы Неферціці, а таксама яго шасці дачок.

Але праз нейкі час імя адной з найпрыгажэйшых і наймудрэйшых жанчын у гісторыі чалавецтва, пачынаюць у запісах заціраць. Побач з іменем Эхнатона з'ўляецца новае імя — Кія. Захаваўся і яе бюст — скуласты твар, пранізлівы позірк… Як сведчаць старажытнаегіпецкія летапісцы, Эхнатон узяў сабе за жонку іншую жанчыну, а Неферціці разам з дочкамі і будучым зяцем — Тутанхамонам выслаў у загарадны палац. Кія зусім не доўга была пры двары. Але гордая Неферціці не пажадала вярнуцца да Эхнатона.

Пасля смерці Эхнатона правіцелем стаў муж адной з яго дачок — Тутанхамон, які загінуў зусім юным. Але калі археолагі трапілі ў ягоную магільню і адчынілі адзін за адным некалькі саркафагаў, у якіх ён быў пахаваны, на вечку апошняга ляжала засушаная кветачка. Яе, пэўна ж, паклала ягоная каханая жонка, дачка Эхнатона і Неферціці…

Незвычайная, вельмі драматычная і прыгожая гісторыя, гісторыя кахання і натхнення… Таму што толькі па натхненні можа нарадзіцца такі незвычайны скульптурны партрэт. Але чаму бюст жонкі фараона часцей за ўсё паказваюць у профіль? Аказваецца, у Неферціці другога вока няма, яно толькі пазначана. У Старажытным Егіпце верылі, што калі намаляваць два вокі, душа жывога чалавека можа перасяліцца ў выяву, а сам чалавек памрэ. Напэўна ж, Тутмас, ствараючы скульптурны партрэт Неферціці, хацеў, каб яна жыла і радавала ўсіх сваёй прысутнасцю ў гэтым свеце.

Здавалася б, Старажытны Егіпет ад нас вельмі далёка. І ў прасторы, і ў часе. Але паглядзіце на гадзіннік. А потым пацікаўцеся, колькі часу зараз у Каіры. Вы здзіўлены? Але ж хіба наш народ не гэтаксама абагаўляе Сонца? Салярныя знакі, так званы вочкавы арнамент (круг з кропачкай у цэнтры) можна сустрэць і на калысках, і на прасніцах. А над вокнамі ў вясковых хатах на Беларусі дасюль захаваліся элементы арнаменту, што сімвалізуюць сонца — сонца на ўзыходзе, сонца ў зеніце, сонца на захадзе… Старажытныя егіпцяне таксама ўвасаблялі сонца ў руху і верылі, што яно засцеражэ ўсіх ад бяды. Але ж салярны знак у многіх народаў (і ў нас таксама) — гэта жаночы знак. Таму што, хто як не жанчына саграває, бароніць, натхняе… Праз гады, стагоддзі, тысячагоддзі…

Ледзь чутныя крокі,
Ледзь улоўныя гукі.
Жанчына да Сонца
Ўскінула рукі…

***Галіна Багданава, мастацтвазнаўца.***

# Джон Эверэт Міле. «Афелія». 1852 год



Перад намі палатно Эверэта Міле «Афелія». Карціна знакавая ў англійскім жывапісе, а ў прыватнасці — у кірунку прэрафаэлізм*. Мяркуюць, што мастак змог стварыць квінтэсенцыю англійскай прыроды. Сюжэт палатна увасабляе сцэну з п'есы Шэкспіра «Гамлет». Афелія, нарачоная Гамлета, даведалася пра смерць бацькі ад рук свайго каханага і страціла розум. Збіраючы кветкі над лясным раўчуком, яна ўпала ў паток.

Міле напісаў невялічкую камерную сцэну, збудаваў яе з траваў, каліны і кветак, насыціўшы гэтыя расліны сакавітай флуарэсцэнтнай зеленню. Але зеленню не прыроднай, а хутчэй шкляной, вітражнай. Буйны рост заблытаных раслін адсылае нас да стану дзікунства і першаснасці, у якім знаходзіцца Афелія. Аддадзеная халоднаму патоку, гераіня пяе журботныя песні. Пранізлівую тугу мы адчуваем літаральна скурай ад скупога сонца, што пагрузілася ў халодную ваду. Промні з'явіліся на імгненне і вось-вось знікнуць. Балючасць драматызму сюжэта дасягаецца цнатлівым і трапяткім вобразам дзяўчынкі. Збялелы тварык у хуткім часе згасне зусім. Афелія загіне.

Кампазіцыя палатна класічная: злева направа працягнута дыяганаль — сілуэт дзяўчыны. Дамінанта карціны — умоўна белыя плямы галавы і рук абрамлены дугой, у якую сплятаюцца галінкі вярбы і рагозу. У правай частцы палатна асноўную дамінанту (рукі і галава) падтрымлівае патэрн белых кветак. Гэты матыў пераклікаецца з групай белых кветак унізе, таксама ствараючы дыяганаль, супрацьлеглую асноўнай. Каларыт палатна будуецца на кантрасце зялёнай і белай гамаў. Калі зялёная гама чыстая і простая, то белая, наадварот, складаная. Квінтэсэнцыю развіцця белага мы бачым на падоле сукенкі. Далікатная субстанцыя з вышыўкі патанае ў дымчатай імжы. Базавы колер фону — буры, гарманізуе два дамінантныя колеравыя кірункі (белы і зялёны).

Напрыканцы зноў спынімся на святле. Святло ўплятаецца ў тканіну палатна, роднячы яго з вітражом. Нават у самыя цёмныя куткі кампазіцыі яно ўрываецца, прасякаючы цвёрдыя субстанцыі і наліваючы іх трансцэндэнтным ззяннем.

***Алеся Галота***

*Прэрафаэлізм — кірунак у англійскім жывапісе і паэзіі другой паловы XIX стагоддзя. Узнік з мэтай барацьбы супраць акадэмічных традыцый і сляпога пераймання класічных узораў.*

# Перад вачыма быў прыклад старэйшага брата

## Стас Шашкоў


«Гарсэт»

«Абжора», «Гарсэт», «Старасць, якая скача»... Калі глядзіш на бронзавыя творы маладога скульптара Стаса Шашкова, хочацца смяяцца: такія яны жыццярадасныя і энергічныя. Вось бы працы аўтара — ды ў горадзе ўсталяваць! Яны б дакладна ўздымалі настрой нават у самыя пахмурныя будні.

— Калі ствараю скульптуру, я атрымліваю шчырае задавальненне ад рабочага працэсу. Для мяне важна, каб мае творы выклікалі эмоцыі, правакавалі гледача, прымушалі ўсміхацца. Для мяне важны такі водгук. Не ўяўляю, у якой іншай сферы, акрамя скульптуры, мне магло б быць у такой жа ступені цікава.

У дзяцінстве Стас Шашкоў, як і многія хлопцы, хадзіў у выяўленчую студыю. У школе вучыўся ў класе з мастацкім ухілам. Але вось у мастацкае вучылішча давялося паступаць тры гады запар — ніяк не паддавалася здачы экзаменацыйная дыктоўка. Але, як і належыць сапраўднаму скульптару, зацятасць і настойлівасць перамаглі акалічнасці. І пасля адзінаццатага класа Стас, нарэшце, папоўніў шэрагі студэнтаў Глебаўскай мастацкай вучэльні.

— Не магу сказаць, што выбар мастацкай сферы быў для мяне ўсвядомленым. Усё неяк склалася ў гэтым кірунку. Перад вачыма быў прыклад старэйшага брата. Ён яшчэ раней паступіў на скульптуру і не шкадаваў аб гэтым. Можна сказаць, я пайшоў па яго дарозе. Цяпер толькі разумею, што зрабіў правільны выбар. Бачу, што быць скульптарам — мой шлях.

Вучоба ў Глебаўцы прайшла цікава. Пасля трэцяга курса Стас паступіў у Акадэмію мастацтваў. Для маладога чалавека ў Акадэміі

было шмат свабоды, цёплых адносінаў з аднагрупнікамі, магчымасцяў для самаадукацыі — і малавата накіроўваючага ўдзелу выкладчыкаў. За гэты час Стас Шашкоў навучыўся працаваць з пластылінам, глінай, гіпсам, каменем і трошкі з дрэвам. Прыйшлося асвоіць і зварку, каб варыць металічныя каркасы для сваіх твораў. Але гэта на старэйшых курсах. А ў пачатку шляху былі аб'ёмныя нацюрморты, прадметы (чаравік, напрыклад). Пазней — галава, аголеная натура. Лепш за ўсё скульптару запомнілася самае першае заданне: зляпіць з гліны ідэальны кубік.

Любая скульптура ў руках майстра праходзіць доўгі шлях — ад маленькага накіду да гатовага твору мастацтва. Спачатку лепіцца эскіз. Затым ён павялічваецца да патрэбнага памеру. Каб не было дэфармацыі, скульптуру ўмацоўваюць каркасам і лепяць у мяккім матэрыяле (гліне або пластыліне). Толькі пасля ўсіх гэтых маніпуляцый працу пераводзяць у цвёрды матэрыял. Калі ж майстар працуе з каменем або дрэвам, то працэс адваротны: у пошуках вобраза ад самога матэрыялу адсякаюць лішняе.

Першай маштабнай працай Станіслава Шашкова быў яго дыплом у Акадэміі мастацтваў. Скульптар стварыў тры бронзавыя фігуры пад агульнай назвай «Грашкі». Спачатку з'явіўся стары, які скача, затым дадаліся жанчына і абжора. Пад «грашкамі» аўтар разумее хутчэй не смяротныя грахі, а слабасці, шурпатасці характару, якія асобу робяць дзесьці нават цікавейшай.

— Напэўна, самае складанае ў маёй працы — стварыць вобраз. Бо ён павінен быць не банальным, актуальным, шчырым, цікавым. Цікавым, у першую чаргу, для мяне самога.


*«Абжора»*


*«Старасць, якая скача»*

Любую ідэю трэба вынасіць, прадумаць. Многае пралічваю наперад: дзесьці не даць каркасу вылезці, дзесьці ўмацаваць, каб не боўталася. Няпроста падабраць патрэбны рух, размеркаваць масы ў прасторы. Бо скульптура павінна ўспрымацца вокам з усіх ракурсаў. У скульптара шмат фізічнай працы, працы цяжкай. Нездарма, напэўна, у савецкія часы не бралі на курс больш адной дзяўчыны. Цяпер жа на скульптуры студэнтак столькі ж, колькі і студэнтаў. Да радасці самых далікатных дзяўчат, заўсёды знойдуцца хлопцы, гатовыя ім дапамагчы.

Сёння Станіслаў Шашкоў па размеркаванні працуе ў дзіцячай мастацкай школе. Маладому чалавеку падабаецца дзяліцца вопытам з юнымі мастакамі. Скульптара радуе, калі дзякуючы яго намаганням дзеці пачынаюць нешта разумець, у чымсьці разбірацца. Як прызнаецца Станіслаў, з яго выйшаў занадта мяккі настаўнік. Бо сам па сабе Стас Шашкоў чалавек бесканфліктны і падатлівы. Каб падтрымліваць дысцыпліну, даводзіцца іграць ролю строгага дзядзькі, а гэта не заўсёды атрымліваецца.

— Канешне ж, хачу рэалізавацца. Гэта выдатна, калі займаешся любімай справай ды яшчэ атрымліваеш за яе грошы! Але гэтага вельмі складана дасягнуць. Аднаму складана. Я мару сабраць групу мастакоў, каб працаваць разам. Мы б стварылі студыю са сваім падыходам да навучання. Яшчэ ў Акадэміі мастацтваў на мяне ціснулі «выхаваўчыя» метады выкладчыкаў: не зробіш — выганім. Такі падыход адбівае ўсякую ахвоту працаваць. У мяне ёсць патрэба вучыць іншых. Хочацца, каб вучань развіўся ў нешта самастойнае, вольнае. Акадэмічны падыход дыктуе, што трэба працаваць так і так. Ён забівае творчы пачатак. Хоць у той жа час ён і арганізуе, падказвае шлях. Трэба шукаць нейкую залатую сярэдзіну. Але пакуль што мне самому трэба падвучыцца. Буду шукаць майстэрню і сябе.

***Анастасія Сасноўская***

# Малюем Жалезнага Чалавека

*У нас балота, дык казалі: не ідзі ў лес, бо там на балоце*
*такі жалезны чалавек ходзіць, дый схопіць цябе.*

***Запісана ў вёсцы Пераpоўскі Млынок***
***Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці***

***Беларускія землі здаўна былі густа пакрыты дрымучымі лясамі і безліччу балот, багатых не толькі на ягады, грыбы, птушак, але і на балотную жалезную руду. Як толькі людзі навучыліся здабываць з балотнай руды жалеза, з якога можна было зрабіць больш надзейныя прылады працы, хатнія рэчы, зброю, — пантэон язычніцкіх багоў, асілкаў папоўніўся яшчэ адным героем — міфічным волатам, ахоўнікам беларускіх балот і лясоў, Жалезным Чалавекам. Ён меў якасці гэтага металу: цвёрдасць, пругкасць, халоднасць, што спараджала жорсткасць, неспачувальнасць, варожасць. Ён стаў нават своеасаблівым абярэгам у ролі страшыдла-хапуна, асабліва на Палессі, дзе было шмат непраходных лясных гушчароў і безліч дрыгвяністых балот з чорнымі прорвамі, смяротна небяспечнымі, асабліва для дзяцей і свойскай жывёлы (паводле Г. А. Цыхуна).***

Прапаную напачатку вызначыцца з сюжэтам. Наш герой жыве ў балоце. Давай абяром невялікае лясное верхавое балота, акружанае соснамі. На беразе, апусціўшы ногі у ваду, будзе сядзець Жалезны Чалавек.

Мы будзем выкарыстоўваць рэферэнсы: выяву ляснога балота, выяву кавалка жалезнай руды, схему анатоміі чалавека.

Наш персанаж перш за ўсё волат. Таму мы зробім відавочнай непрапарцыянальнасць галавы і цела, што характэрна для людзей вялікага росту. Яшчэ адна асаблівасць — вельмі шырокія плечы, выразныя цягліцы, доўгія рукі, але малыя кісці рук. Невялікі таз, але доўгія ногі.

«Садзім» на бераг чалавечы сілуэт. Выбіраем выгадны для сядзячага чалавека ракурс. Лінію пазваночніка малюем выгнутай, каб паказаць Жалезнага Чалавека сутулым. Ён занадта высокі, нават горбіцца, каб не быць вышэйшым за дрэвы. Малюем рукі і ногі, таз, не забываючы пра асноўныя суставы.



1



2










Малюем чэрап, праводзім цэнтральную лінію твару, каб надаць галаве пэўны ракурс. Малюем асноўныя цягліцы. Звяртаемся да анатоміі! Увогуле, вельмі раю табе зрабіць вось што: папрасі свайго сябра сесці ў патрэбную позу і замалюй яе. Гэта вельмі дапаможа зразумець, як пластычна функцыянуюць асноўныя суставы.

Якія ўласцівасці мае жалеза як матэрыял? Яно цвёрдае, трывалае, пругкае, халоднае; руда — аморфная, вузлаватая. Гэтыя характэрныя рысы мы можам надаць чалавечаму целу: жылістае, пругкае, цягліцы выразныя, вузлаватыя. Таму цягліцы будуць у нас рэльефныя, гіпертрафіраваныя, валакністыя.

Цяпер, калі мы намалявалі чалавечы сілуэт, даўшы яму характэрныя для нашага персанажа асаблівасці, ператворым яго ў сапраўднага Жалезнага Чалавека. Месцамі пазначым фактуру жалезнай руды з усімі яе якасцямі — шурпатасць, рэльефнасць, трэшчыны. Лагічна будзе надаць антуражу — начапіць на постаць балотнай травы, ціны, крыху яе забрудзіць і заблытаць ногі ў балотных раслінах — багуне і ядлоўцы.

Апрацоўваем выяву тонам — абіраем крыніцу святла і згодна з ёй наносім уласныя цені, паўцені, падаючыя цені. Гэта складаная задача, бо цені мусяць мець усе рэльефы цела — як асноўныя цягліцы, так і шурпатасць жалезнай «скуры». Не забываем вылучаць тлустым лініі пярэдняга плана, паслабляць лініі задняга плана.

Бяромся за дэталі. На пярэднім плане старанна прамалёўваем травы, галіны і лісце балотных раслін.

Віншую, фініш!

***Алеся Галота***

Мастачка Дар'я Чупрыс

# Карагод прыгажосці

Кожная пара года ўплывае на чалавека па-рознаму.

Вясной яркі нябесны блакіт дазваляе проста не заўважаць бруд пад нагамі, а разнастайнасць першых вясновых кветак дадае яшчэ больш радасці. Цёплае сонца саграваe не толькі зямлю, але і душу. Вясной заўсёды хочацца смяяцца і любіць. Любіць усё навокал і ўсіх, хто побач.

Летам так добра сядзець на нагрэтай сонцам траве і любавацца вытанчанымі танцамі матылёў над квітнеючым лугам, чароўнымі пераліvамі сонца ў ранішняй расе, празмернай незвычайнасцю цёплых колераў неба ў вечаровы час. Цёплы колер жыцця, цёплае сонца зверху, цёплая вада ў рэчцы — і так цёпла на душы! Не шкадуючы зялёнага, прырода размалявала гэтым цудам усё вакол...

Восень уяўляецца пякучымі фарбамі вогнішча, аддаецца рэзкім выбухам яркіх эмоцый, смеху і мільярдамі самых розных адценняў. Барацьбой усіх адценняў яркага з шэранню, сумам, халодным ветрам і сырасцю, барацьбой мокрых дарог са стракатым лістападам. Дождж, падобны на слёзы, прымушае думаць аб кожнай праблеме ў жыцці, а залаты лістапад адводзіць усё дрэннае некуды далёка, і хочацца проста радавацца самому жыццю.

Зіма ж — час сапраўдных цудаў. Маленькія сняжынкі не проста сыплюцца з неба, яны нібы танчаць у нейкім чароўным карагодзе. А кіруе ўсімі гэтым танцамі клапатлівы вецер. Пад святлом самотнага ліхтара гэтыя танцы сняжынак найбольш заварожваюць… Белы колер усюды. Днём ён так прыемна пераліваецца на сонцы, ноччу — так таямніча зіхаціць пад ліхтарамі.

І варта проста ведаць, што сапраўдную прыгажосць можна знайсці ў кожнай пары года, у любым надвор'і.

***Валерыя Мароз,***
***8 клас, СШ № 2, Мінск***

# Цячы, цячы, крынічанька!

У кожнага чалавека ёсць любая мясціна. Ёсць такая мясціна і ў мяне. Яна знаходзіцца ў лясным масіве «Несцераўка». Гэта крынічка. Я магу там сядзець па некалькі гадзін, думаць,назіраць і сачыць за тым, як з зямлі выбіваецца найчысцейшы струменьчык вады.

Калісьці мясцовы святар асвяціў крынічку, і таму вяскоўцы лічаць гэтае месца святым. Людзі прыходзяць сюды, каб набраць вадзіцы, палячыцца ад розных хвароб. Кажуць, вада тая доўга стаіць, захоўваючы прыемны смак.

А як добра спякотным днём проста напіцца крынічнай вады, проста наталіць смагу!

Вучні нашай школы зрабілі зруб, ачысцілі ваду ад глею, павесілі карэц.

Раней, расказвалі нам настаўнікі, каля гэтай крынічкі ладзілі піянерскія вогнішчы, прымалі акцябрат у піянеры, праводзілі сяброўскія сустрэчы з вучнямі суседніх школ. Няблага было б адрадзіць гэтыя прыгожыя традыцыі…

Цячэ, булькае вадзічка, ператвараючыся ў імклівую ручаінку. А куды цячэ? Якая магутная рака падхопіць яе крыштальную ваду, куды панясе на сваіх імклівых хвалях?

Мноства пытанняў паўстае перада мной, калі я знаходжуся побач з крынічкай, калі наталяю смагу яе гаючай вадой.

*Карына Лабунька,*
*7 клас, Турэцкі дзіцячы сад—базавая школа, Чэрвеньскі раён*



*Мастачка Марыя Агрэніч*

# Прыгоды Ульяны Пчолкінай

У адным сучасным горадзе жыла звычайная дзяўчынка-шасцікласніца. Дзяўчынку звалі Ульянай, прозвішча яе было — Пчолкіна. І была Ульяна Пчолкіна вельмі жвавай і цікаўнай. Але… Часам ёй не хацелася ісці ў школу, таму што там задавалі не вельмі цікавыя хатнія заданні. А гэта ж столькі часу затрачвалася на тое, каб іх выканаць! Ці не лепш гэтыя гадзіны прысвячаць любімым гульням!

І вось аднойчы ранкам Ульяна прачнулася ад нейкага гудзення. Калі ж дзяўчынка ўстала і падышла да акна, яна ўбачыла, што гудзе пчала. І вельмі незвычайнай была гэтая пчала: усё цельца пералівалася перламутрам, а вочы былі нібыта дзве вялізныя пацеркі.

Спачатку Ульяна хацела злавіць пчолку слоікам, але потым перадумала і вырашыла проста выпусціць «госцю». Яна расчыніла фрамужку і пачала чакаць…

А пчолка, перад тым, як вылецець, уселася на кірпаты носік дзяўчынкі, праўда, джаліць не стала. Замест гэтага яна нібыта «пацалавала» Ульяну ў носік і толькі потым вылецела ў фрамужку.

Крыху супакоіўшыся пасля гэтага незвычайнага візіту, дзяўчынка паснедала і з цяжкім сэрцам села за ўрокі.

Але што за дзіва?! Усе задачкі яна рашыла амаль адразу. Потым хутка і без адзінай памылкі выканала пісьмовыя заданні па рускай і беларускай мовах. Затым з лёг-

касцю вывучыла параграфы па гісторыі і біялогіі. І, што самае цікавае, не толькі не змарылася ад усяго гэтага — наадварот: ёй вельмі цікава было ўсім гэтым займацца!

І такое пачало адбывацца з Ульянай штодня. Яна захапілася фізікай і астраноміяй, бо з самага дзяцінства марыла паглядзець на нашу блакітную планету зверху, з космасу.

Не дзіўна, што пасля заканчэння школы і ўніверсітэта Ульяна стала астранаўтам. Яна працавала ў навукова-даследчым інстытуце, адначасова праходзіла самыя разнастайныя тэсты і выпрабаванні і чакала, чакала…

І вось надышоў самы яркі і адказны дзень. Мара ўсяго жыцця здзейснілася. Сёння, 27 кастрычніка 2059 года, Ульяна ляцела туды, куды яна імкнулася з дзяцінства. У космас.

Карабель набірае хуткасць. Каманда дзейнічае зладжана і дакладна. З заміраннем сэрца астранаўт Ульяна Пчолкіна глядзіць у ілюмінатар. Перад ёй — Сусвет.

Прайшло паўгода. Экіпаж зоркалёта «Беларусь» даследаваў шмат планет і ў самым канцы экспедыцыі наблізіўся да яшчэ адной, невядомай.

Планета была вельмі дзіўнай — пералівалася ўсімі колерамі вясёлкі і перламутрам. Гэтыя вясёлкавыя і перламутравыя колеры былі ўсюды: на незвычайных збудаваннях, на дзіўных раслінах. А яшчэ ўсюды панавалі гармонія і спакой.

Вось толькі дзе ж насельнікі незвычайнай планеты, чаму яны не сустракаюць гасцей?

Калі астранаўты выйшлі з зоркалёта, яны ўбачылі вялікі рой перламутравых пчолак. А потым ад яго аддзялілася адна пчолка і села на скафандр Ульяны. Дзяўчына ажно ўскрыкнула ад радасці, бо гэта была тая самая пчолка, якая прылятала да яе даўным-даўно, у далёкім дзяцінстве.

Пчолка зноў «пацалавала» Ульяну, але не ў носік, а ў абалонку скафандра і сказала чалавечым голасам: «Вашай планеце пагражае вялізны астэроід. І ў вашых сілах яе выратаваць!»

Раздумваць не было часу. Экіпаж развітаўся з дзіўнай планетай і паспяшаўся выканаць сваю нялёгкую місію.

У астранаўтаў усё атрымалася. Яны пераадолелі ўсе перашкоды і знішчылі астэроід, які нёс разбуральную сілу.

А потым экіпаж прызямліўся, і астранаўт Ульяна Пчолкіна вярнулася дадому. А праз некалькі дзён у фрамужку ўляцела тая ж перламутравая пчолка. Яна апусцілася на далонь Ульяны і сказала: «Калісьці, даўным-даўно, я дакранулася да цябе невыпадкова. Я ведала, што ты моцная і смелая. Выратаваўшы сваю планету, ты выратавала ўсю Галактыку. Яна толькі здаецца вялізнай, а на самай справе — вельмі крохкая і можа загінуць у любы момант. Менавіта ад вас, людзей, залежыць будучыня Галактыкі. Рабіце дабро, любіце жывое, пашырайце свае магчымасці, бо ім няма межаў!»

Ульяна расплюшчыла вочы.

Нікога ў пакоі не было, лёгкі ветрык гуляў за акном, ласкава ззяла сонейка, праз расчыненую фрамужку даносіўся пяшчотны водар вясновых кветак.

Планета жыла сваім жыццём!

***Марыя Дубоўская,***
***лаўрэат Магілёўскага гарадскога конкурсу юных пісьменнікаў,***
***6 «А» клас, СШ № 23, Магілёў***

# Аднойчы ў каралеўстве Флорыя




Мастачка Марыя Агрэніч

На адной лясной палянцы расло шмат розных кветак. Яны, нібы вясёлка ў блакітным небе, ззялі рознымі колерамі і былі такія прыгожыя, што немагчыма было адарваць вачэй. Абапал палянкі, нібыта вартавыя, раслі бярозкі, асінкі, хвоі і яліны. А па-над кветкамі ляталі і звінелі на розныя галасы пчолкі, стракозкі, мушкі і іншыя насякомыя. Па шаўковай траве бегалі жучкі і мурашы. І кожны быў заняты справай. Гэта былі жыхары казачнага кветкавага каралеўства Флорыя, дзе каралевай была фея Флора. Яе ласкавы голас звінеў нібы крынічка, на прыгожым румяным тварыку заўсёды ззяла шчырая ўсмешка, а зялёная сукенка Флоры мякка струменілася на тонкім і грацыёзным стане.

А яшчэ фея Флора была мудрай і справядлівай каралевай. Яна падтрымлівала парадак і спакой, прыгажосць і дабрабыт у сваім каралеўстве. Дружна і зладжана жылі фларыянцы. Умелі на карысць сабе працаваць і весела адпачываць сярод прыгожых кветак. Нават калі іх каралева адлятала часова, каб наведаць сваіх сяброўак-фей, на палянцы панавалі спакой і парадак.

Але аднойчы, якраз тады, калі Флора адляцела, каб наведаць адну з сяброўак, на паляне заявіліся веліканы. Яны пачалі таптаць кветкі, рваць іх, дзеля таго толькі, каб кінуць потым у траву. З вялізнай металічнай скрыні, якую гэтыя веліканы ўсталявалі пасярод палянкі, даносілася гучная музыка. Ад музыкі той ажно трэслася зямля, а ў маленькіх жыхароў Флорыі закладвала вушы.

Ад такога вэрхалу жучкі пахаваліся ў норкі, мурашы паспяшаліся ў мурашнік, павучкі сплялі пад лісцікамі павуцінкі і затаіліся там. Перапалоханыя стракозкі, пчолкі і мушкі разгублена кружыліся над кветачкамі, не ведаючы, як абараніць іх ад гэтых веліканаў.

А веліканы распалілі сярод кветкавай палянкі вялізнае вогнішча. Пякучыя языкі полымя злізвалі усё жывое, а едкі дым сляпіў вочкі і не даваў дыхаць маленькім жыхарам Флорыі.

Гэтае жудаснае нашэсце здарылася так раптоўна, што застала казачнае каралеўства знянацку. Разгубіліся фларыянцы, не ведаюць што рабіць і як ратаваць сваё каралеўства. І добра, што ў гэты час на палянцы з'явілася сама фея Флора.

Яна папрасіла Вецер, каб той прынёс Хмарку і ўсталяваў яе над палянкай. Камары, мушкі, пчолкі і мурашы па загадзе Флоры дружным гуртам накінуліся на веліканаў і пачалі іх кусаць і джаліць.

Спалохаліся варвары, падхапілі сваю металічную скрыню і кінуліся ўцякаць з палянкі.

А потым Хмарка пралілася над Флорыяй дажджом і затушыла агонь.

Шмат жыхароў каралеўства загінула ад нашэсця веліканаў. А пасярод прыгожай палянкі чарнела страшэнная пляміна.

Пагаравалі маленькія фларыянцы і дружна ўзяліся за работу. Мурашы з жучкамі прыбіралі палянку ад смецця. Крылатыя насякомыя прыносілі насенне розных траў і кветачак, каб разам з Флорай зноўку засеяць параненую палянку. Хмарка палівала яе дожджыкам, каб хутчэй прарасло насенне, сонейка грэла і песціла ўсходы. І хутка палянка сярод лесу зноўку заззяла рознакаляровымі кветкамі. А фларыянцы дружна і весела зажылі ў сваім казачным каралеўстве.

***Алена Калкоўская,***
***5 клас, Шашкоўская СШ, Стаўбцоўскі раён***

# Гісторыя пра Кропельку

Гэта гісторыя пачалася самым звычайным летнім ранкам і скончылася вечарам таго ж дня. Але паміж ранкам і вечарам адбылося вялікае мноства падзей…

Усё пачалося з таго, што на шырокім лісточку жоўтагаловага дзьмухаўца, які рос каля берага плыткай рачулкі, з'явілася празрыстая кропелька расы. Яна была маленькая, але вельмі дапытлівая, і таму далей будзем пісаць яе назву з вялікай літары.

Спачатку Кропелька з захапленнем агледзела дзьмухавец, зялёную траву і маладую лістоту навокал. Затым падняла свае празрыстыя вочкі да неба, дзе ляніва плылі ў далячынь бялюткія аблокі. Кропельцы яны падаліся вельмі падобнымі на пярыну…

«Вось бы мне паляжаць хоць крышачку на такой пярынцы!» — пачала марыць Кропелька. Яе адразу ж перастала захапляць навакольная зеляніна. Кропелька замаркоцілася.




*Мастачка Марыя Агрэніч*

Летняе сонейка ўбачыла сумную Кропельку, прыгрэла мацней, і Кропелька нечакана панеслася проста ў неба, да воблачка.

Якой шчаслівай была яна ад таго, што мара спраўдзілася! Але, досыць паляжаўшы на пуховай пярынцы, яна ўбачыла ўдалечыні рознакаляровую вясёлку, і зноўку засумавала: «Ах, як бы я жадала дабрацца да гэтага цудоўнага мастка і бліжэй разгледзець яго!»

Раптам узняўся лёгкі ветрык, падзьмуў на воблачка, і яно разам з Кропелькай павольна паплыло па бязмежнай нябеснай роўнядзі.

Ізноў наша гераіня ўзрадавалася: яна плыла кудысьці на сваёй белай пярынцы і нават праплыла на ёй пад рознакаляровым вясёлкавым мостам! А потым ветрык змяніўся, і воблачка паплыло ў зваротным напрамку.

Апусціўшы свае маленькія вочкі ўніз, наша падарожніца ўбачыла там вузкую блакітную стужку шумлівай рачулкі. «Ах, як бы я хацела патрапіць туды і паплаваць у чыстай празрыстай вадзічцы!» — шчыра выказала сваё жаданне Кропелька. І яна сапраўды саскочыла з воблачка і, паляцеўшы ўніз, патрапіла проста ў раку.

Колькі радасці было ў Кропелькі! Але, калі яна стамілася плёскацца ў чыстай рачной вадзе, яна зноў засумавала па сваім доміку, па зялёным лісточку дзьмухаўца.

«Вось бы мне вярнуцца на свой лісточак…» — з сумам падумала Кропелька.

На яе шчасце якраз у гэты час на рэчку прыйшла гуска са сваім вывадкам. Спачатку гусяняты скублі сакавітую траву, якая расла ўздоўж берага, а потым пабеглі купацца. Адно гусянё зачапіла стомленую Кропельку сваім пёркам, вынесла на бераг і абтрэслася. Кропелька адарвалася ад пярынкі і самым цудоўным чынам апынулася на лісточку свайго роднага дзьмухаўца. «Якая я шчаслівая! — ужо засынаючы, падумала маленькая падарожніца, — Шмат новага я сёння ўбачыла, і цяпер дакладна ведаю, што самая любая мясціна — гэта тое месца, дзе я нарадзілася!»

***Цімур Цітоў,***
***6 «В» клас, Заслаўская гімназія,***
***паэтычны клуб «Ізяслаўцы»***

# Старыя будынкі

Заяўка на Парнас

Вечар здаваўся сапсаваным.

Кастусь плёўся дадому, поўны прыкрасці. Усе планы на вечар правaліліся, і далей яго чакала поўная адзінота. Адно радавала: дзень выдаўся пагодлівы, ды і вечар абяцаў быць неблагім, так што можна было куды-небудзь прайсціся нават без сяброў.

Стоячы перад святлафорам і разважаючы, куды падацца, хлопец звярнуў увагу на знаёмую постаць на процілеглым баку вуліцы. Растрапаная кучма цёмных валасоў, расшпіленая куртка, а пад ёй — недарэчная цяльняшка. «Гэта ж Саша!» — пранеслася ў галаве.

Саша, аднакласніца Кастуся, таксама пазнала хлопца і пайшла яму насустрач, ветліва ўсміхаючыся.

— Прывітанне, Кастусь! Нязвыкла бачыць цябе па-за школай...

Сапраўды. Яны вучыліся разам з першага класа, але ніколі не сустракаліся дзесьці яшчэ, акрамя школы.

— Не жадаеш прагуляцца? Магу праводзіць дахаты, — прапанаваў хлопец, узрадаваўшыся раптоўнай сустрэчы, якая абяцала хоць часткова пазбавіць яго адзіноты.

— Чаму б і не! — Саша паціснула плячыма. — Хадзем!

***

Перыстыя аблокі над іх галовамі з белых павольна ператвараліся ў пяшчотна-ружовыя, сваім выглядам нагадваючы свежы зефір. Туды-сюды насіліся машыны, уздымаючы пырскі ад учарашніх лужын. А яны ішлі і маўчалі. Размова не клеілася. Хлопец адчайна спрабаваў знайсці якую-небудзь агульную, акрамя вучобы, тэму для размовы, але ніяк не атрымлівалася…

«Усё ж дзіўна, — раптам падумалася яму, — столькі гадоў бачыцца з чалавекам амаль кожны дзень і ведаць аб ім так мала! Ты можаш ведаць аб ягоных поспехах у вучобе, манерах апранацца і размаўляць, можаш ведаць, куды ён плануе паступаць пасля школы, але не здагадвацца нават, які ягоны любімы колер, якую музыку ён слухае, чым займаецца ў вольны час. А можа, у гэтым няма нічога дрэннага? Можа, густы нашы настолькі розныя, што нам увогуле няма аб чым размаўляць?»

І раптам дзяўчына рэзка спынілася:

— Паглядзі сюды!

Кастусь азірнуўся і быў крыху здзіўлены: Саша паказвала на старыя, патрапаныя часам, у плямах учарашняга дажджу трохпавярховыя будынкі. Над імі якраз праплывала адно з тых перыстых, ружаватага колеру аблокаў, і гэтая ўяўная неадпаведнасць высокай нябеснай прыгажосці і зямной прыніжанасці яшчэ больш псавала выгляд пацярпелых ад доўгага жыцця жылых пабудоў.

— І што ж такога ты тут убачыла? — паціснуў Кастусь плячыма. — Ну, воблака, ну, над домам старым плыве…

— Прыгожа выглядае, праўда? Дом, я маю на ўвазе. Прыгожа?

— Ды не асабліва... — Кастусь зноў паціснуў плячыма. — У нашым горадзе шмат такіх старых пабудоў. І як толькі ў іх людзі жывуць?

— А я проста іх люблю, гэтыя пабудовы! — раптам прызналася Саша. — Ведаеш, гэта толькі з выгляду яны такія халодныя, шэрыя і несамавітыя, але там, знутры! Калі нікуды не спяшаешся, я магу расказаць табе, чым яны мяне так прываблiваюць.

Кастусь кіўнуў, і дзяўчына павяла яго ў двор. Яны прайшлі міма дзяцей, якія весела ў штосьці гулялі, і селі на лавачку пад ліпамі. Саша страсянула галавой, і, павярнуўшыся да Кастуся, сказала:

— Бачыш гэтыя балкончыкі? На адных сярод слоікаў з закруткамі стаяць гаршкі з кветкамі, плюшчы аплятаюць аканіцы, а на другіх проста сохне бялізна. Праўда ж, усё гэта дадае дому ўтульнасці, і ён не выглядае ўжо такім шэрым? А ўлетку тут часта можна ўбачыць, як хтосьці стаіць на балконе, палівае кветкі ды размаўляе з суседам з балкона побач. Хіба гэта не цудоўна? У новых дамах такога не ўбачыш. Наўрад ці ты ведаеш людзей, якія жывуць у суседняй кватэры, нават не кожны павітаецца з табой пры сустрэчы. А тут усё не так. Мне здаецца, што людзі, якія жывуць у гэтых старых дамах, зусім іншыя! Яны быццам не адгэтуль, а з нейкага паралельнага свету, у якім усе калі не дабрэйшыя за нас, то, ва ўсякім разе, куды больш ветлівыя і добразычлівыя…

Мы вось сядзім і глядзім на дом, а я ўжо ўяўляю здрадлівае рыпанне масніц, калі нядзельнай раніцай ты падняўся крыху раней сваіх родзічаў і спрабуеш прабрацца ў кухню, нікога не пабудзіўшы. Уяўляю, як бабуля цэлы дзень завіхаецца, рыхтуючыся да прыезду ўнукаў, правяраючы, ці не падгарэў іх любімы вішнёвы пірог у духоўцы, і прыводзячы сябе ў парадак, каб не выглядаць стомленай. Як хлопчык дзевяці гадоў іграе гамы на піяніна і зайздросна пазірае то на гадзіннік, то на акно: пакуль яго сябры ў сонечны майскі дзень гарэзуюць у двары, ён павінен сядзець дома і займацца, каб сыграць матулі на дзень нараджэння яе любімы вальс Чайкоўскага. Як закаханыя, тулячыся на маленькай кухні, ядуць макароны з адной талеркі і прыціскаюцца адно да аднаго…

Кастусь слухаў, як зачараваны. «Нядзіўна, што ў Сашы заўсёды былі добрыя адзнакі за сачыненні!» — пранеслася ў яго галаве. Ён і ўявіць не мог, што можна прыдумаць столькі гісторый, проста гледзячы на дом. Ужо добра звечарэла, а ён быццам не заўважаў ці не хацеў заўважаць гэтага, каб толькі не адрываць дзяўчыну ад аповеду.

Раптам з кішэні Сашынай курткі данеслася гучная мелодыя, і дзяўчына, неахвотна выцягнуўшы мабільнік, падняла яго да вуха. Потым уздыхнула і з сумам паглядзела да Кастуся:

— Трэба ісці!

***

Правёўшы Сашу, Кастусь вяртаўся дадому. Каля свайго пад'езда ён сустрэў мужчыну, з якім часта бачыўся і ў двары, і ў ліфце, і таму вырашыў праверыць Сашыны разважанні. Неяк не верылася, што з ім не будуць вітацца, але на ветлівыя словы Кастуся мужчына толькі павярнуў галаву ў ягоны бок і змерыў хлопца халодным падазроным позіркам. Крыху расчараваны, Кастусь рушыў далей.

І потым, жуючы бутэрброд на кухні, калі астатнія члены сям'і замкнуліся ў сваіх пакоях, ён раптам зразумеў усё тое, аб чым апавядала яму дзяўчына ў расшпіленай куртцы і недарэчнай цяльняшцы…

***Карына Рэут,***
***11 «Ф» клас, ліцэй № 1, Мінск***

# Я па роднае слова вярнуўся дамоў

*Анатоль Зэкаў*


*Мастачка Дар'я Чупрыс*

## РОДНЫ КУТ

Я і ў краі далёкім
родны кут адчуваю
па бялюткіх аблоках,
што адтуль прыплываюць.

Калі сонца прачнецца
і ўсміхнецца з усходу,
адчуваю ўсім сэрцам
і душою кут родны.

Дзе б ні быў я, заўсёды
у журбе пракаветнай
адчуваю, кут родны,
цябе кожнаю клеткай.

З табой днюю й начую,
родны кут Беларусі,
па табе я сумую,
на цябе я малюся.

## СА МНОЙ ЗАЎСЁДЫ…

Са мной заўсёды лес былінны
і поле, дзе, як ноч, ралля,
бо гэта ўсё — мая Айчына,
мая радзінная зямля.

Са мной заўсёды луг у кветках,
дзе для чмялёў і пчолак — рай,
і рэчка плыткая,
бо гэта
мая зямля, мой любы край.

І я таму заўсёды рады,
калі ўспаміны правядуць
па вёсцы ў ліпавых прысадах,
дзе землякі мае жывуць.

***Анатоль Зэкаў — сучасны беларускі паэт і даўні сябар часопіса «Бярозка», яшчэ са сваіх школьных гадоў.***

## МОЙ РАДАВОД

Наташа — мама,
бацька — Коля,
і дзед Цімох,
і баба Марфа.
Імёны гэтыя ніколі
у памяці маёй
не спрахнуць.

А ёсць і прадзедаў імёны,
і іншых «пра»,
якіх нямала.
Яны мацуюць, нібы звёны,
ствол радаводны мой
трывала.

Яны адтуль,
з глыбінь стагоддзяў,
дзе — і загадкі, і адгадкі.
І я — звяно ў тым радаводзе
для будучых сваіх нашчадкаў.

## ВЯРТАННЕ Ў РОДНАЕ СЛОВА

У прысмаку слоў,
бы ў прысмерку сноў,
прычашчаюся ранкамі ўсімі.
Я па роднае слова вярнуўся дамоў.
Толькі боязна ўсё ж: а ці прыме?

Я стаю перад ім, нібы блудны той сын,
я стаю перад ім, шмат у чым вінаваты.
Столькі ў свеце дарог я зямных
скалясіў,
толькі ўсё-ткі вярнуўся да роднае
хаты.

А ўва мне гэта слова шчымела штоміг,
успамін аб маленстве далёкім будзіла.
Гэта слова не толькі мне лашчыла
слых.
Гэта слова было для мяне і Радзімай.

Сваё сэрца тугой я даўно прапалоў
і ў ім месца краям больш чужым
не пакінуў.
Я па роднае слова вярнуўся дамоў,
толькі боязна ўсё ж: а ці прыме?

## КУПАЛЬСКІЯ АГНІ

Гараць Купальскія агні
і зырка асвятляюць далеч,
і ноч глядзіць у тыя дні,
якія ўзнікнуць за Купаллем.
Што наваронсыць ім яна,
якую напрарочыць долю,
пакуль не бачыцца і ў снах,
ну а наяве — дык тым болей.
А ўжо вось-вось — і тыя дні,
і першы з іх — за гэтай ночкай…

Гараць Купальскія агні —
і па рацэ плывуць вяночкі.

## МАЛЕННЕ ДА СТАРОЙ ПЕСНІ

Я малю: уваскрэсні
і наноў захлыні,
наша даўняя песня,
нашы новыя дні.

Хай успыхнуўшы мігам
пражыві і згары,
ды адно толькі: ціха —
я малю — не памры.

Не зачахні спакойна
ў гуле веку майго,
адгукніся ў бяссонні —
ты ўсё ж варта таго.

Я малю: уваскрэсні
і наноў захлыні,
наша даўняя песня,
нашы новыя дні.

## РАЎНАВАГА

Як боль душу рубцуе,
наноў сябе правер.
Забудзь, што не шанцуе,
і ў лепшае павер.
І ведай: побач з болем
і між усёй бяды
красуе жыта ў полі
і сад дае плады.
І ведай: побач з плачам
жыве — усім для ўцех —
зычлівы смех дзіцячы,
бацькоў шчаслівы смех.

## ЧЫГУНАЧНАЯ ВУЛІЦА

Вёска ў цемені туліцца,
у вячэрняе стыні.
Над Чыгуначнай вуліцай
моўчкі зоры застылі.
На тапол і расселіся
і, прыхмарыўшы вочы, —
гэта ж трэба асмеліцца! —
за каханымі сочаць.
Можа быць, і не верыцца,
але ўсё-ткі паверце:
з цеплавозамі мерыцца
сваёй хуткасцю вецер.
Рэйкі к шпалам прытуляцца,
аж ускружыцца неба...
Неспакойная вуліца —
вось такая мне трэба!

## ТРАЛЕЙБУСЫ

Ў іх лёс адзін на ўсе гады —
і ўжо яму не быць другім.
У іх адзін маршрут заўжды,
адна шаша пад колы ім.

І кожны ранак, кожны дзень,
пакуль не сціхне ўсякі рух,
за імі цягнецца, як цень,
навек прыкованы ланцуг.

А ім так хочацца звярнуць
у нейкі бок
на нейкі міг
і хоць бы крышачку зірнуць,
што там, на вуліцах другіх?

## БРАСЛАЎ

І ясным днём,
і ноччу зорнай
з курганнай памяццю
сягоння
глядзіцца Браслаў у азёры,
нібы ў сівых вякоў прадонне.

Ягоных вулачак скрыжалі
туман нябыту не схавае.
Імклівай чайкаю над хваляй
адвеку тут жыццё крыляе.



## НА ВОЗЕРЫ

Люблю на беразе азёрным
у ціхі вечар пастаяць,
калі ў ваду з нябёсаў зоры
у мройным одуме глядзяць,
а ветрык гойдае-калыша
у прыбярэжжы чараты
і дзе наўсцяж — такая ціша,
што кожны шоргат чуеш ты.

## ТРЫ КІТЫ

Зямля,
паветра
і вада
трымаюць свет, як тры кіты.
А ёсць яны,
то не бяда,
бо разам з імі
ёсць і ты.

Жывеш,
не знаючы турбот,
і дні мінаюць чарадой
за годам год,
за годам год —
з зямлёй,
паветрам
і вадой.

*Глеб Ганчароў*

# Як беларускія рэкі назвы займелі

*Казка-рыфмаванка*



Жыў ды быў у цёмным лесе, на гушчаравым Палессі, дзе Кікімар у бары заядаюць камары, дзе ў лагчынах Лесавік корміць кашай чаравік, Змей-Гарыныч трохгаловы, з вокам выпуклым, ліловым, з лускай чорнай, нібы смоль, надакучлівы, як моль.

Кожны дзень на самым золку ён любіў гасіць вясёлку, сонца хмарай закрываць, з крумкачамі ваяваць, нападаць на гарады, есці з дуба жалуды, люд палохаць у дарозе, дзерці лісце на бярозе, і з Ягіняй па чарзе лётаў ён на качарзе.

Ад яго стагналі горка нават Месяц, нават зоркі, нават гразкае балота бедавала, як галота. Натапыраны пугач у дупле дрыжаў, хоць плач, і халодная вужака пад кусты ўцякала з жахам. А гняздзіўся Змей-Гарыныч недзе на рацэ Гарыні.

Ён аднойчы на ўзыходзе, абудзіўшыся ў лагодзе, паглядзеў на ціхі лес, на пагорак стромкі ўлез, счуў, як б'е асіну дзяцел, як бабры ў падводнай хаце дрэва смачнае грызуць, як чмялі ў палях гудуць, ды падумаў: «І чагосьці я раблю такія злосці? Вунь, якія ў свеце цуды! Мабыць, мне спыніць пракуды? А што, як у гэтым леце грымне гром, завые вецер, здрыганецца ўся зямля, прыйдзе Мурамец Ілля ці Мікіта Кажамяка і галовы мне чарцяка паскідае булавой?! Гэта дрэнна, вой-вой-вой!»

Змей-Гарыныч тым жа ранкам прымасціўся каля ганка, ліст вялізны лапуховы палажыў на стол дубовы, у чарніла з зелянушкі абмакнуў пяро Жар-птушкі, напісаў радні сваёй: «Прылятайце ўсе гурбой!»



І ягоную дэпешу па зямлі панеслі спешна лось, вавёрка, чорны грак ды паштовы ваўкалак.

Ў хуткім часе на Гарыні трохгаловы род змяіны пазбіраўся на абед: Змей-Прыпяціч — людаед, Змей-Бяседзіч баязлівы, Змей-Жалоніч гаманлівы, Змей-Уборціч — чараўнік, Змей-Лаваціч — рабаўнік. І з-пад хмар на парашуце апусціўся Змей-Іпуціч.

— Ты чаго нас запрасіў? — іхні гурт загаласіў.

— У мяне такая справа, — гаспадар казаў ласкава. — Трэба нам пакінуць злосці, а не тое раптам госці нас наведаюць з мячом, замахнуцца над плячом і пазносяць нам галовы ці парэжуць на паловы!

— Вельмі кепска мне, суседзі! — напужаўся Змей-Бяседзіч.

— Мусіць, нехта нас атруціць? — хваляваўся Змей-Іпуціч.

А Прыпяціч і Жалоніч пахаваліся ў далоні.

— І на што ж нам спадзявацца? — запытаўся Змей-Лаваціч.

— Не журыцеся, сябры! — мовіў Змей з ракі Гарынь. — Нам патрэбна неадкладна ўсім сябе паводзіць ладна: не паліць агнём лясы, не ганяць з нары лісы, у садах не трэсці грушы, не цягаць зайцоў за вушы, не ўздымаць на моры хваляў…

Цмокі ўсе засумавалі, і хіхікаў чорны грак з гэтых цмокаў-небарак.

Але ў гэтую хвіліну хтосьці пёрся праз маліну, праз калючыя кусты. І змяіныя хвасты задрыжалі, нібы дзеці. Больш за ўсіх дрыжаў Бяседзіч: завываў і скавытаў, быццам смерць сваю вітаў, і хаваўся з галавой пад пякучай крапівой.

На змяіную паляну з-за маліны, з-за бур’яну, выйшаў нейкі дзіўны цмок, што ад поту цалкам змок. У яго крутыя рогі, перапончатыя ногі, скура, як у кракадзіла, ды каціная мардзіла, быццам просіць гэты кот, каб пачухалі жывот.

— Добры дзень! — сказаў чужынец. — Вох, які цяжкі гасцінец вёў мяне да вас сюды праз краіны, гарады, праз балоты і пустыні, цераз горныя вяршыні, міма безданяў і яраў, скрозь агонь лясных пажараў! І якісьці хлопец гадкі трапіў мне ў крыло з рагаткі. Мо дазволіце на пні адпачыць у цішыні?

*Глеб Ганчароў паспеў папрацаваць і інжынерам-канструктарам, і юрыстам, і журналістам. У якасці апошняга пісаў нарысы, артыкулы, фельетоны і казкі. Спачатку для сына Ягора, цяпер, калі Ягор падрос, для пляменніцы Марынкі. Ідэю казкі «Як беларускія рэкі назвы займелі» падказаў менавіта сын Ягор.*



—Хто такі ты? Кім ты будзеш? — запытаўся Змей-Іпуціч.

А Бяседзіч з-пад куста біў зубамі: «Тра-та-та!»

— Я не ведаю, кім буду, — так казала цуда-юда. — Жыў ля велічнай ракі, у мяне былі бацькі. Толькі, як я нарадзіўся, даць імя айцец забыўся. Ды няўжо ў любой краіне можна так не дбаць аб сыне хоць знарок, хоць незнарок? Ён жа быў вярхоўны бог! На яго ва ўсім Егіпце ворагі вастрылі кіпці, бо ён шмат зрабіў паслуг для егіпецкіх акруг. Навучыў іх шыць адзежу, будаваць буйныя вежы, піраміды і дамы, зладзіў лекі ад чумы, коней прыручыў і кошак, ураджай збіраў у кошык, даў жыццё ім год да ста ды празваўся богам Пта! І таму цяпер, хоць хныч, я па бацьку проста Пціч.

— Што за глупства! Вось лухта! Хіба ёсць мянушка Пта? — не паверыў Змей-Лаваціч. — А куды ж глядзела маці?

Але хмурны той Змей-Пціч на яго глядзеў, як сыч, як на школу першы клас, і прадоўжыў свой расказ:

— Вось аднойчы рэчку Ніл выпіў прагны кракадзіл, і страшэнная спякота наваля на нас маркоту, нават тоўсты бегемот збег кудысьці на усход. Я таксама па пустыні тупаў ластамі сваімі, каб сустрэцца з прахалодай, цішынёй і асалодай і, пакуль да вас дайшоў, рэчку дзіўную знайшоў. Між лугоў і агародаў, між рагозаў і чаротаў, як ручнік яна цячэ, быццам ткач палотны тчэ, у краях лясных ляжыць… Можна, там я буду жыць?

— Гэта добра! — падагульніў Змей-Жалоніч змеяў гульні: — Кожны выбера рачулку для аховы і прытулку. Чарадою жураўлінай прама ў гэтую хвіліну мы на рэчкі паляцім, толькі моцна не свісцім, каб нікога не спалохаць. Дый язык цару Гароху не паказваем змяіны ані ў твар, ані за спінай! Не высушваем дажджы… Гэй, Бяседзіч, не дрыжы!

І да неба, быццам коні, узняліся Змей-Жалоніч, Змей-Бяседзіч, Змей-Прыпяціч, Змей-Уборціч, Змей-Лаваціч, Змей-Дняпровіч, Змей-Іпуціч ды блізня ягоны Друціч...

А апошні адлятаў Пціч і жаласна крахтаў — вельмі сутаргай звяло перабітае крыло.

Змей-Гарыныч іх праводзіў аж да ўзлеску на усходзе. Памахаў кіпцястай лапай, скавытнуў зубатай зяпай ды нырнуў глыбей у плынь дарагой ракі Гарынь. Там ён рыбу вартаваў, з Вадзянікам жартаваў, і ламбаду на Купалле Змей з русалкай танцавалі.

З тых часоў на кожнай карце можна лёгка адшукаць іх, калі слушна шлях намеціць, рэчку Убарць, рэчку Беседзь, Прыпяць, Ловаць і Жалонь, Іпуць, Друць, Случ, Лань і Лонь, Дзіваць, Обаль, Віць і Рось… Каля іх гуляе лось, ды пад кожнаю ракой Змей пільнуе супакой.

І самотны госць змяіны не застаўся без хаціны. Даспадобы яму тут, бо займеў ён родны кут. Вось таму і тая рэчка, дзе ў палях бялее грэчка, дзе жыве рахманы Пціч, з той пары завецца Пціч.

***Мастачка Юлія Усава***



*Алмаз Гімадзіеў*



Мастачка Юлія Усава

# Падарунак

Мяне ў школе ведаюць усе без выключэння. Толькі не імя маё ведаюць, а мянушку: «Дэзадарант Расім». Мянушка дурная, але прыліпла да мяне так, што неададраць. Вам, пэўна, цікава ведаць, як я яе атрымаў? А ўсяму прычынай святы.

Спярша было 23 лютага. Пра гэты дзень у мяне самыя прыемныя ўспаміны. Дзяўчаты з нашага класа падаравалі нам па флаконе адэкалону. Мы, хлопчыкі, ад душы ім падзякавалі. Увогуле мы разумеем, што ім да гэтага дня цяжка рыхтавацца. Нас у класе — 22 чалавекі, а іх, дзяўчынак, — усяго 3. Увогуле, святочны дзень прайшоў даволі прыстойна. Напярэдадні свята мы дамовіліся не сварыцца, не біцца і не гаварыць дрэнных слоў. Нават вядомы на ўсю школу Фуат па мянушцы Дзіў у гэты дзень нікога не адлупцаваў. Толькі спадцішка пагражаў кулаком: «Няхай пройдзе 23 лютага, заўтра ўсё адно каму-небудзь лыч надзяру...»

Набліжаўся Міжнародны жаночы дзень. Гавораць, што даўгі трэба вяртаць. На 8 сакавіка мы таксама вырашылі парадаваць нашых дзяўчынак каштоўнымі падарункамі.

Мы скінуліся на гэтую справу, і атрымалася немалая сума. Самі ведаеце, у вясковай краме цяжка знайсці нешта вартае. «Расім, ты хлопец прабіўны і па-руску добра размаўляеш, — казалі мне хлапчукі. — бяры ў падтрымку Мятнага Аміра (яго так пачалі клікаць у гонар мятнай гумкі, якая, здаецца, увесь час была ў яго роце) і валіце ў горад».

«Глядзі, выберы найлепшы падарунак», — крыкнулі ўжо наўздагон.

Вось так мы з Амірам і пашыбавалі ў горад з поўнымі кішэнямі грошай. Ды і бацькі яшчэ дадалі. Бо галодным жа цэлы дзень па горадзе не праходзіш. На такія грошы для трох дзяўчынак не ведаю што можна было накупіць. Падумаеш, калі крышачку на сябе з тых грошай патрацім — ніхто і не заўважыць. З гэтай прычыны мы рэйсавы аўтобус чакаць не сталі, а злавілі першы ж «жыгуль», які нам на вочы трапіў.

У горадзе мы апошні раз былі тры-чатыры гады таму. Усё наўкола змянілася. Стаім, азіраемся. На вакзале, каля слупа з ліхтаром, прыкмецілі двух завэдзганых мужыкоў — сядзяць прама на асфальце. Перад імі — пустыя бутэлькі.

Відаць, ішлі здаваць і не дайшлі. Адзін — з працягнутай рукой. Нам шкада іх стала — далі па пяцёрцы кожнаму.

Праз два крокі наткнуліся на кіёск з марозівам. Пабываць у горадзе і не пакаштаваць марозіва — пасля ж сябе паважаць перастанеш. А марозіва таго — столькі розных відаў, што вочы разбягаюцца. Толькі заплацілі гандлярцы, каля нас з'явіліся дзве дзяўчынкі — прыгожанькія, быццам лялькі.

— Хлопчыкі, можа быць, пачастуеце? — а самі смяюцца ў кулачкі.

У нас з Амірам рот да вушэй раз'ехаўся. Каму ж з вясковых хлопцаў не карціць пазнаёміцца з гарадскімі дзяўчынкамі? Можа быць, пасля разам у кіно сходзім ці куды-небудзь яшчэ — ужо пачалі мы выбудоўваць планы. Ну, ізноў палезлі ў кішэні па грошы.

— Хлопчыкі, а марозіва ж зусім маленькае, мы звычайна па дзве порцыі з'ядаем, — гавораць яны нам.

Ну хіба такім лялечкам адмовіш? Тым болей напярэдадні жаночага свята. Што ж, гуляць дык гуляць! Будзе што расказаць, калі вернемся.

Толькі асабліва нам пахваліцца не давялося... Атрымаўшы па два марозівы, гэтыя шчабятушкі дружна сказалі нам «дзякуй», і ў тую ж хвіліну як з-пад зямлі ўзніклі двое рослых хлопцаў, і нашы лялечкі ўзялі іх пад ручкі. Нават не азірнуліся. А мы засталіся з Амірам стаяць як укопаныя кожны з адкрытым ротам.

Ну, ды бог з імі... Павярнулі свае кепкі казыркамі назад, засунулі рукі ў кішэні і, як сапраўдныя гараджане, нетаропка пасунуліся далей...

Спыніліся ў цэнтры каля натоўпу дзяўчат на рагу. Аказалася, што ўсе назіраюць за нейкай дзіўнай гульнёй. Здаровы амбал, прысеўшы на кукішкі, перастаўляе з месца на месца тры вялікія напарсткі. Пад адным з іх — маленькі шарык.

— А ну, хто адгадае, пад якім напарсткам зараз шар? — пытаецца дзяціна. Амір не вытрымаў, паказаў пальцам на адзін з іх. Але чамусьці шарыка там не аказалася. Мы хацелі было ісці далей, але дзяціна падняўся на ўвесь свой велізарны рост і цапнуў Аміра за шкірку.

— Прайграў! З цябе пяцьдзясят рублёў!

Заплацілі. А што было рабіць? Пасля нам захацелася есці. Гэта ўсім вядома — калі ў чалавека непрыемнасці, чамусьці заўсёды хочацца есці. Купілі ў грузінаў два шашлыкі, чатыры піражкі і дзве шклянкі кока-колы... А болей ні на што, акрамя аднаго пакеціка папкорну, грошы не трацілі...

Час быў ужо пасляабедзенны, калі мы пералічылі свае капіталы, — які жах!.. Там нават на аўтобусныя білеты не хапала. І падарункі не купленыя...

Зайшлі ў нейкую краму. Там у адным радзе з сякерамі, цвікамі, банкамі з фарбай я ўбачыў прыгожыя яркія дэзадаранты. Вось шчасце прываліла! І, галоўнае, каштуюць не дужа дорага. Самы танны — тры рублі. Усяго тры рублі... Мы выбралі тры самыя яркія бутэлечкі з надпісам «карбафос». У аўтобус праціснуліся «зайцамі», з горам папалам даехалі да сваёй вёскі. Пра тое, як мы давіліся ў перапоўненым аўтобусе, як нам надавалі па адным месцы пры праверцы білетаў — пра гэта лепей не ўспамінаць...

*Алмаз Гімадзіеў — вядомы дзіцячы пісьменнік, лаўрэат літаратурнай прэміі імя Ш. Манура Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Татарстан. У яго творах, цікавых і вельмі разнастайных па змесце, вельмі шмат гумару.*

Рэакцыя нашых аднакласнікаў на купленыя намі падарункі была дзіўнай — яны чамусьці не заскакалі ад радасці, а даволі пахмурна заявілі:

— Вось самі і ўручаць будзеце!

Уручыць мы ўручылі... Хіба я мог прадбачыць, чым усё гэта завершыцца? Адна з дзяўчынак — Гульчачак — адразу ж узяла і папырскалася гэтым дэзадарантам.

Што тут нарабілася! З класа ўсіх як ветрам змяло. Гэты самы карбафос аказаўся на дзіва смярдзючай штуковінай — сродкам ад тараканаў, клапоў і іншых шкоднікаў.

Вось з тае пары да мяне прыліпла мянушка «Дэзадарант Расім». І неададраць. Як вы думаеце, гэта на ўсё жыццё?..

***Пераклаў Алесь Карлюкевіч***

## Аповесць-канструктар

## *Аліна Длатоўская. Арнаменты*

*Пачатак у нумарах 1—3.*

*Мастачка Наталля Длатоўская*




Выразай па шэрым пункціры.




Складвай напалам па карычневым пункціры такім чынам, каб старонка 49 (53, 57, 61) апынулася зверху.




На апошнім этапе складзеныя напалам двойчы старонкі трэба склеіць па бэжавай лініі.

***Важна!*** Для склейвання старонак, каб яны не карабаціліся, выкарыстоўвай ***гумавы*** клей.

***Так, месяц за месяцам дадаючы новыя старонкі аповесці, ты можаш стварыць кнігу!***

***Калісьці дзве дзесяцігадовыя дзяўчынкі — Кася і Аліна — бавілі час, пішучы аповеды і цэлыя раманы ў жанры фэнтазі і зачытваючы іх адна адной ды ўсяму падворку. Час мінуў, цяпер Аліна Длатоўская — дарослая пані і пісьменніца, якая мае адначасова як талент і густ, падсілкаваныя творчымі бацькамі, так і майстэрства, якое бясконца, руплівa ўдасканальваецца. Яе маленства прайшло на Казках Караткевіча, а маці спявала беларускамоўную калыханку перад сном. Аліна добра ведае беларускую гісторыю і бачыць у ёй крыніцу натхнення не меншую за нашыя мроі пра чараўніцтва і звышздольнасці. І я ведаю, што менавіта Аліна Длатоўская стане шырокавядомым беларускамоўным фантастам, які спалучыць гісторыю з уяўнай будучыняй і ўвасобіць у сучаснасці.***

***Кася Глухоўская***

вянок прадкажа каханага? Як можна верыць ва ўсіх гэтых медыумаў, гадалак ды вядзьмарак? Як можна верыць у што заўгодна, не бычыўшы гэта вачамі? А мо сапраўды, каб пабачыць, трэба паверыць?

Белыя пялёсткі падалі ў зялёную траву.

— Верыць — не верыць — верыць — не верыць, — шаптала дзяўчына.

Апошнія два пялёсткі зрасліся і ўтваралі з сябе нібыта адзін, але вельмі вялікі. Дык гэта «так» ці «не»? Чаму ў дзяцінстве такіх сумневаў не ўзнікала? Чаму верылася ў любы цуд? Напэўна, у дзяцей надта буйная фантазія. Таму ім не трэба ніякіх доказаў. Яны ствараюць іх самі. Даросламу ж розуму не хапае гнуткасці, цікаўнасці, увагі да знешняга свету, а не да асабістага ўнутранага. У рэшце рэшт, чым старэйшыя тэлефон ці камп'ютар, тым горш яны працуюць, тым больш у іх featureрознага смецця ды вірусаў, тым больш памяці занята рознай непатрэбнай лухтой. Мо з мазгамі чалавека адбываецца тое самае? А мо гэта якія-небудзь біялагічныя асаблівасці ўзросту ці стану? Кажуць жа, што прывідаў бачаць толькі маленькія дзеці і хатнія жывёлы. Тады мо Агнія называе Юрасём не ката, а яго нябачнага гаспадара?

— Аліса, ты зусім з глузду з'ехала! Якія яшчэ «нябачныя гаспадары»? — звярнулася дзяўчына да сябе ўголас.

Згадаліся серыялы і кнігі пра розных фантастычных ды міфічных істот. А такіх жа процьма. Ці прыдумалі б

52

Дзядуля задумліва сеў на лаву і папляскаў па ёй далонню, запрашаючы ўладкавацца побач.

— Ведаеш, я часта пра гэта разважаю. Можа быць, справа не ў тым, што мы адпрэчваем, бо не бачым…

— А ў тым, што не бачым, бо адпрэчваем?

Стары красамоўна ўсміхнуўся ў вусы, але Аліса толькі абурана пакруціла галавой:

— Так можна пра што заўгодна сказаць… Мо да нас яшчэ і іншапланецяне прылятаталі?

— А хто можа давесці, што не прылятаталі? Гэта ўсяго толькі пытанне веры.

— Калі гэта толькі пытанне веры, дык і сонца круцілася вакол зямлі, пакуль людзі ў гэта верылі?

— У некаторым сэнсе — так, — развёў рукамі мужчына.

— Вера не ўплывае ні на фізічныя законы, ні на законы прыроды — вось што я ведаю, — сур'ёзна заўважыла Аліса ды ўзнялася.

— А вось што ведаю я: цуды не здараюцца з тымі, хто іх не чакае.

— А ты верыш у цуды? — дзяўчына ведала, што жыццё самотнага старога мужчыны ў вёсцы нельга назваць «цудоўным».

— Я ўвесь час прымушаю сябе, маленькая мая. Звар'яцець значна лягчэй, калі ў цуды не верыць.

Аліса задумалася. Усё гэта гучала вельмі дзіўна, але нешта падказвала ёй, што дзядуля мае рацыю. Заставалася толькі паспрабаваць паверыць.

49

***

Агнія назірала за тым, як Юрась ловіць у дробнай рэчцы маленькіх рыбак. Ён заміраў каля самай вады ды чакаў пакуль некалькі цікаўных малькоў не выплыве бліжэй да берага. Рыбкі былі надта палахлівыя, таму трэба было дзейнічаць вельмі хутка. Агнія бачыла, што хлапцу гэта неверагодна падабаецца. Ён падскокваў, пляскаў складзенай дахам далонню па вадзе ды смяяўся. Яна з задавальненнем далучылася б да яго, але зараз у яе быў больш істотны занятак. Агнія думала. Распрацоўвала план па расплюшчванні вачэй старэйшай сястры.

— Проста дай ёй час, — стомлена расцягваючыся побач, прапанаваў Юрась. — Цяжка прызвычаіцца да таго, што ў тваёй хаце жыве процьма нябачных мужыкоў. І да таго, што кот тваёй сястры — хлапец. Ва ўсіх сэнсах.

— Чаму яна не можа проста паверыць мне? Я ж ёй веру, калі яна кажа, што можна рабіць, а што — нельга. Я павінна, бо яна старэйшая. А хто сказаў, што дарослыя заўсёды маюць рацыю?

— Думаю, гэта сказалі дарослыя.

— Раз яна не хоча мяне чуць, я прымушу яе ўбачыць.

— Калі ты хочаш, каб я зноў цэлы дзень трапляўся ёй на вочы, я супраць. Па-першае, гэта не працуе. Па-другое, мінулы раз яна кінула ў мяне агурком! Брудным. Не, гэта павінна быць «па-першае».



— Я хачу пайсці на балота, злавіць там якую-небудзь кікімару, пасадзіць яе ў слоік і хадзіць з ёй, пакуль Аля не ўбачыць, што ўнутры нешта ёсць! Вось што!

— Твой план такі ж дзейсны, як і папярэдні, — усміхнуўся Юрась, беручы ў рот травінку. — На балота ты, ясная справа, не пойдзеш. Ды і кікімары там не жывуць.

— А дзе яны жывуць?

— У хаце, вядома.

— У хаце?

— Ну. Звычайныя дзяўчаты. Прыкладна твайго ўзросту, жывуць у тых хатах, дзе дзіцё памерла, бо яго маці пракляла ці забіла. Яны зусім не шкодныя. Толькі гуляць вельмі любяць і дурэць. Карацей, дзеці як дзеці. А сястра твая нічога не ўбачыць, пакуль не захоча, хоць ты ёй самога Чарнабога з-пад зямлі выцягні. Дай ёй час, а мы пакуль паловім рыбак. Хадзем, хадзем!

## ТРЭЦЯЯ

Аліса задумліва абрывала пялёсткі рамонкаў. Пра каго ці пра што яна варожыць? Як увогуле можна цікавіцца сваім лёсам праз палявыя кветкі? Як можна верыць у тое, што рамонак, кава, свечка ці люстэрка могуць прадказаць будучыню, што пушчаны на ваду

Агнія згодна затрэсла галавою і рудыя кучаравінкі заскакалі, нібы спружынкі. Хут задаволена ўзняўся і прыцягнуў вядро вады. Зноў зірнуў на Юрася, вымавіў:

— Вачэй не спускаць.

Адышоў далей ад кіпы сена і замёр, заплюшчыўшы вочы. Знутры паступова падымалася гарачыня, скура прыемна нацягвалася, ад чаго яму рабілася козытна і яшчэ больш горача.

Хут паступова пераўтвараўся ў дзіўную істоту, нечым падобную да цмока. Цела яго цяпер пакрылася залатой луской, сам ён свяціўся, нібы ўнутры палала вогнішча, а за спінай трапяталі невялікія, але моцныя крылы. Агнія здзіўлена раскрыла рот і назірала за Хутом. Ён узняўся ў паветра, акуратна і не вельмі высока, каб не падпаліць пуню. Крыху пакружляў, перакульнуўся праз галаву і раптам рэзка накіраваўся да зямлі. Моцна ўдарыўся аб яе, адначасова набываючы звыклае аблічча. Вакол яго цьмелі вугельчыкі. Астываючы, яны ператвараліся ў золата.

— Ты быў нібы камета, — зачаравана прашаптала дзяўчо.

— Усе так кажуць, калі мяне ў нябёсах бачаць, — фанабэрыста зазначыў Хут.

Юрась фыркнуў, збіраючы кавалкі золата ў кулак.

— Не фыркай. Ты павінен паказаць ёй усё.

— Я сам разбяруся, — стрымана, але нязлосна адказаў хлапец, — што і каму павінен.



людзі ўсіх гэтых прывідаў, пярэваратняў ды крывасмокаў, калі б насамрэч іх не існавала? Няўжо магчыма стварыць столькі міфаў літаральна на пустым месцы?

Дзяўчына цяжка ўздыхнула і пацерла скроні. Людзі — самыя жудасныя пачвары. Яны заўсёды будуць ствараць злосных духаў, спакуслівых д’яблаў і бязлітасных Люцыпараў, каб толькі апраўдаць сваю жорсткасць. Але Агніі пакуль не варта гэта ведаць. Хай яшчэ пажыве ў казцы. Расчараванне аднойчы прыйдзе само. Да Алісы ж прыйшло…

***

Хуту на гэты раз давялося рыхтаваць два кубкі сырадою: для Юрася і ягонай маленькай сяброўкі. Ён нецярпліва завіхаўся ў пуні, спрабуючы навесці прыгажосць ды ўтульнасць, нібы збіраўся да гэтага дзяўча заляцацца. Зразумела, сардэчныя справы не мелі да гэтага ніякага дачынення. Хуту проста трэба было, каб Агнія яму давярала. І ён разумеў, што ў адносінах з такой паненкай аднымі жарцікамі ды хітрыкамі не абыдзешся. Тут патрэбны сур’ёзны падыход.

У дзверы пуні праціснулася цікаўная пыска Юрася. Ён пакруціў галавой, упэўніваючыся, што Хут тут адзін, і акуратна праслізнуў унутр, зацягваючы за сабою дзяўчынку. Яна выглядала вельмі кволай у цмяным святле, але рудыя кучаравінкі рабілі ўсё навокал ярчэй. А ён яшчэ хацеў на іх яблыкі кідаць…

— Здароў, — мармытнуў Юрась і пацягнуўся па малако.

Хут жвава накрыў кубкі далонямі.

— А знаёмства?

Малая адразу ж працягнула яму мягкую руку.

— Вечар добры, спадар Хут. Мяне завуць Агнія.

Ёй выдатна падыходзіць гэтае імя. Ямінкі ў яе на шчоках вельмі мілыя... Пакуль ён думаў ды цiснуў маленькую далоньку, яна падхапіла вольнай рукой кубак з малаком і залівіста засмяялася.

— Не кожны Хута перахітруе, — задзірліва зазначыў Юрась, уладкоўваючыся на самым мяккім і сухім стозе сена.

Дзяўчо ён усадзіў сабе на калені. Хут падцягнуў бліжэй драўляную калоду ды ўсеўся на яе, каб быць хоць прыблізна на адным узроўні з сябрам.

— Ну, як табе наш сусвет, Сонейка?

— Забаўна. І вельмі цікава. Але я пакуль мала ведаю.

— Ну, Юрась жа знаёміць цябе з такімі, як мы?

— Пакрысе, — адказаў за малую сябар.

Падавалася, што юнак хоча яе ад чагосьці абараніць. Хоча, але не можа. Таму і спрабуе круціцца, каб і загад выканаць, і маленькай прыгажуні шкоды не нарабіць. Нячысцік узнагародзіў Юрася красамоўным позіркам. Не бывае, хлопча, каб і нашым, і вашым.

— Ты хацела б ведаць пра нас больш?

54



55

не хацела нават слухаць. А раз не хоча слухаць, трэба дзейнічаць інакш. Нягледзячы на ўсе перасцярогі з боку сябра, Агнія ведала, што павінна зрабіць гэта. Павінна давесці сястры існаванне містычных істот. Не словам, дык справай. Гэтая ўпэўненасць і рухала яе наперад, гасячы боязь ды сумневы. Далоні халадзіла шкляная паверхня трохлітровага слоіка. Калі кікімары ў лесе, на балоце не жывуць, малая зловіць якую-небудзь бяскрыўдную дробязь. Гэта будзе зусім лёгка зрабіць, бо якая ж пачвара чакае, што на яе ўночы можа паляваць малая дзяўчынка?

Трава вільгатнела ад вечаровай расы, чаплялася ды ліпла да ног. Каля твару звінелі нахабныя надакучлівыя камары. І малая ніяк не магла ад іх адмахнуцца, бо баялася выпусціць з рук шклянку. Спрабавала матляць сваімі рудымі кудзеркамі ды дзьмуць на жамяру, але гэта не дапамагала. Вось сапраўды пачварныя істоты, не тое што розныя там Хатнікі ды Хлеўнікі.

Добра, што Юрась ды Хут на ўсю ноч зніклі кудысьці па сваіх справах, і Юрась не зведае, што задумала Агнія. Ён бы дакладна яе нікуды не пусціў. А за яе зусім не варта хвалявацца. Між іншым, тут жыве дзядзька Лясун, які за ёй абавязкова панаглядае. Малая спынілася на ўскрайку лесу. Адтуль цягнула холадам, сырасцю, прэлым лісцем. Ёй здавалася: дастаткова зрабіць крок — і апынешся ў іншым сусвеце. Аліса вельмі любіла разважаць пра розныя паралельныя, фантастычныя сусветы, але напрыканцы заўсёды дадавала, што іх не існуе. Але сястра памылялася. Возера, лес, вёска, горад — ўсё



***

Міраслава зноў праяўляла празмерную цікаўнасць да чужых спраў. Хоць Стэфан, відавочна, не меў ніякіх прэтэнзій на гэты конт, бо ніколі не абмяжоўваў яе. Зараз яна зазірала праз прыадчыненыя дзверы ў пакой Усевалада. Той, здавалася, меў свае меркаванні пра яе, але хто б у яго іх выпытваў. Цяпер юнак сядзеў у звыклай позе, падціснуўшы ногі, і чытаў кнігу. Дакладней, чытаў радок, заплюшчваў вочы і паўтараў напамяць, ледзь варушачы вуснамі. Міру ён не ўбачыў, а вось яна заўважыла кніжную вокладку. Нейкая мастацкая літаратура са Знешняга Сусвету. І навошта вучыць яе?

— Што ты робіш?

Юнак нарэшце звярнуў на яе ўвагу, задаволена ўсміхнуўся і адхінуў папяровую вокладку, якой была абгорнута кніга. Іншая, сапраўдная вокладка сцвярджала, што гэта ніякая не мастацкая літаратура, а чацвёрты том «Поўнага збору Пачвараў балта-славянскага рэгіёна».

— Стэфан пра гэта ведаць не павінен, — замест адказу адзначыў хлопец.

— Што дрэннага ў вучобе?

— Зараз я павінен займацца сваімі справамі.

— Тады чаму ты вучыш?

Як толькі ў яе падчас навучання выдавалася вольная хвілінка, яе адразу ж здзьмувала з месца насустрач прыгодам.

— Мне не заўсёды хапае на вучэнне таго часу, які вылучае Настаўнік на занятках.

— Дык скажы яму, што ён надта шмат патрабуе.

Гэта яна, Міра, звычайна дамаўлялася з выкладчыкамі аб пераносе кантрольнай ці тлуміла ім галаву так, што яны забываліся і на праверку, і на новую лекцыю. Але Усевалад відавочна лічыў гэта ганебным.

— Ён патрабуе дастаткова. Я проста часам прыкладаю мала намаганняў.

— Ты ўвогуле ведаеш, што Кіраўнік лічыць цябе адным з лепшых вучняў?

— Гэта вам хто сказаў? Кіраўнік?

— Не паверыш.

— Ды ладна?!

— Ну, я папрасілася ў яго пайсці да Майстра, у якога лепшы вучань.

— Папрасіла Кіраўніка? Хоць, улічваючы тыя скандалы, што я яму закатваў у маленстве, мяне гэта не павінна здзіўляць.

— Скандалы? — надышоў Мірын час здзіўляцца.

— Стэфан не з самага пачатку мой Настаўнік. Не важна.

— Ну і самаўпэўнены ж ты.

— Для мяне істотнае толькі адно меркаванне, — спакойна паціснуў плячыма хлапец.

— Тваё?

— Не настолькі я самаўпэўнены. Ясная справа, я пра Стэфана.

— Пф, ужо ён дык дакладна лічыць цябе лепшым.



— Лепшы вучань — не заўсёды лепшы ваяр, і наадварот. Як вучань я, можа, для яго і лепшы, толькі параўноўваць яму няма з кім. Як ваяр… я з ім нават побач не стаяў, — юнак спахмурнеў, нечым відавочна напружаны.

— Але і ён не лепшы.

— Гэта спрэчнае меркаванне.

— Ён нават не Майстар! — дзяўчына не мела нічога супраць прыгажуна-ваяра, але такое захапленне ім здзіўляла.

— Майстэрства вызначаецца не пасадай, Міраслава. Думаю, на гэтым размову можна скончыць. У мяне яшчэ дзве старонкі не вывучаныя.

Знайшоўся разумнік! «Майстэрства вызначаецца не пасадай; лепшы вучань — не лепшы ваяр…» Гэта яму таксама Настаўнік на занятках распавядае? Ва ўяўленні Міра пачула, як тыя ж словы вымаўляе Стэфан. І яны раптам падаліся ёй справядлівымі і зразумелымі. Стэф, ясная справа, сказаў бы зусім інакш — без адцення здзеку, спакойна і ўраўнаважана, з прытоенай цёплай усмешкай на суровым твары. А калі б ён сказаў так што-небудзь іншае… Больш істотнае, больш чаканае. Міраслава паматала галавой. Ну і дурасці туды часам лезуць! Трэба тэрмінова ўчыніць сабе трэніроўку, каб усе іх вытрасці.

***

Агнія ўпэўнена тупала па сцежцы наперад. Цяпер, калі яна пазнаёмілася з Хутам, ёй неабходна было падзяліцца гэтым з кім-небудзь, акрамя Юрася. Аліса ж

Кот адскочыў, павярнуўся да возера і прыпаў да зямлі. Натапырыўся, выгнуў спіну. У гэты ж момант малая нахілілася да вады надта нізка, упала і пачала боўтацца. З кожным сваім рухам яна рабілася далей ад берага, нібы яе нешта цягнула. Аліса рашуча кінулася да сястры. Вада была не па-летняму халоднай, босыя ногі блыталіся ў агідных водарасцях. Рухацца было цяжка, але яна наблізілася наколькі магла ды працягнула сястрычцы руку. Тая, аднак, не выпрастала сваю. Яе нешта трымала. Аліса, ледзь стрымліваючы істэрыку, прымусіла сябе зрабіць яшчэ некалькі крокаў ды схапіла малую за плечы. І ў гэты ж момант убачыла нейкіх істот: у іх былі доўгія зялёныя валасы, цёмная, амаль празрыстая скура, блакітныя-блакітныя вочы ды зробленыя з ціны сукенкі. Дзве шчабяталі нібы птушкі ды спрабавалі зацягнуць малую на глыбіню. Астатнія плавалі вакол ды заахвочвалі сяброўак, пляскаючы па вадзе плаўнікамі-ступнямі.

— Адчапіцеся! — разгубіўшыся, закрычала Аліса.

Дзяўчыны толькі зарагаталі, віскатліва і непрыемна.

Раззлаваўшыся, яна схапіла агідныя халодныя рукі ды паспрабавала прыбраць іх ад сястрычкі. На дзіва, гэта спрацавала. Рогат, пляск, ціўканне — усё сціхла.

— Вядзьмарка! — па-чалавечы выгукнула адна з дзяўчат, і ўсе яны адначасова зніклі пад паверхняй вады.

Малая плакала, абдымаючы сястру за шыю халоднымі ручкамі.

64

гэта паралельныя сусветы. Проста знаходзяцца ў адной плоскасці. Каб ўпэўніцца ў гэтым, дастаткова толькі паглядзець, як па вадзе бегае вадамерка. Агнія бачыла, а вось яе сястра наўрад ці. Калі яны бывалі на возеры, Аліса звычайна глядзела, як бегаюць па паперы жучкі-літары, а да сапраўдных жучкоў ёй было мала справы.

Вось жа яно! Не трэба лавіць ніякіх пачвар! Трэба проста набраць у шклянку вады ды насадзіць туды вадамерак. Калі іх лёгкія хуткія крокі, якія амаль не парушаюць паверхню вады — не чараўніцтва, тады ці ёсць яно ўвогуле? Малая пераможна ўсміхнулася, павярнула і ўпэўнена рушыла ў іншы бок, туды, дзе ў блішчастай паверхні возера адбіваліся промні поўні.

***

Аліса змерзла. Без гарэзы пад бокам зусім немагчыма было заснуць. Дзе яна корпаецца? Сказала ж, што хутка прыйдзе.

Дзяўчына села і працерла вочы. Ціха, каб не пабудзіць дзядулю, выйшла ў двор. Цемра, свежасць і яркія зоркі ў нябёсах.

— Агеньчык! — гукнула яна. — Ты дзе, малая? Хадзем спаць!

Сястры не было ні чуваць, ні відаць. Якой дурасцю было думаць, што яна дастаткова дарослая, каб самастойна памыцца і пайсці спаць. Аліса ўздыхнула і выйшла з двара на вясковую вуліцу. Куды гэтае невыноснае дзяўчо магло скіравацца?

61

Яна прыкусіла пазногаць.

— Агнія?!

З шэрані на яе раптам вызірнулі два ўважлівыя жоўта-зялёныя вокі.

— Цяпер павінна з’явіцца ўсмешка, Чэшырскі ты кот, — фыркнула Аліса. — Куды малую падзеў?

Аліса магла паклясціся: пыска ката зрабілася спалоханай. Ён паперамінаўся з лапкі на лапку, нервова азірнуўся, а потым раптам узняўся і пабег. Не разумеючы, што ёю кіруе, дзяўчына крочыла следам. Вушы ды вусы ката безупынна варушыліся, збіраючы ўсе навакольныя звесткі, вочы нібы сканавалі прастору. Ну, прывітанне, вар’ятня. Шукаць малодшую сястру з дапамогай дваровага ката — прыехалі. Аліса нават пару разоў ушчыкнула сябе за руку. Раптам сон? Але было балюча. А яшчэ было балюча ад асэнсавання сваёй віны. Яна, як старэйшая сястра, павінна быць побач заўсёды, павінна сачыць, даглядаць, клапаціцца. Замест гэтага яна адмаўлялася ад малой, не жадаючы слухаць казкі ды гуляць у гульні. Цяпер яна была згодная на любую гульню, абы Агеньчык знайшлася жывая і здаровая.

Пухнаты павадыр тым часам вывеў яе да возера, у якім яны так часта плёскаліся ў гарачыя дні.

Малая сядзела каля самай вады ды набірала яе ў трохлітровы слоік. Навошта дзіцяці ўначы слоік з азёрнай вадой? Аліса ўжо хацела крыкнуць ды пабегчы да малой, але кот зашыпеў і стаў супраць дарогі.

62



— Я табе, канешне, удзячная, але пайшоў прэч адсюль!

Звер зашыпеў настойлівей і выпусціў кіпцюры.

— Пайшоў прэч! — крыкнула Аліса і тупнула нагой.

63




# Усё падманлівае акрамя кахання

«Gray Matter. Прывіды падсвядомасці» — праўдападобная, эмацыянальна дарослая гісторыя, якая круціцца вакол простых пачуццяў: тугі, адчужанасці, жадання быць побач з каханым.

Два галоўныя героі Дэвід Стайлс і Саманта Эверэт. Ён — прыгожы, прывабны нейрахірург, у мінулым страціў жонку ў аўтакатастрофе. Яна — ілюзіяніст, з дзяцінства засталася без бацькоў і выхоўвалася ў дзіцячым доме. Нешта агульнае?..

Сэм (скарочанае ад Саманты) лёс прывёў да дома Дэвіда: дзяўчына накіроўвалася ў Лондан, але вецер пераблытаў паказальнікі напрамкаў, і яна прыехала ў маёнтак Дрэд-Хіл. Тут пачынаецца гульня: Сэм бачыць, як нейкая дзяўчына ідзе да ганка, паўтараючы раз за разам, што яна — новы лабарант, потым чагосьці палохаецца і з'язджае. Сэм займае яе месца: плацяць 100 фунтаў на тыдзень, кормяць, ды яшчэ і пакой у доме выдзелілі. У якасці першага задання дзяўчыне трэба набраць шэсць добраахвотнікаў для эксперымента. Вечарам — першы дослед. Назаўтра выяўляецца, што падчас эксперымента здарылася дзіўнае. І Сэм павінна раскрыць загадку. Так разгортваецца адна з сюжэтных ліній. Другая звязана з уступленнем у закрыты клуб ілюзіяністаў «Дэдал».

А Дэвід пасля смерці жонкі хоча стварыць сваю рэальнасць, дзе яго любая Лора жывая. Ён вырашае правесці эксперымент, каб зразумець функцыянаванне мозга падчас фантазій. Для гэтага спрабуе аднавіць свае ўспаміны праз рэчы каханай.

Калі казаць пра мінусы: створана платформа, дзе можна выбіраць паслядоўнасць рухаў у труках, але гулец не мае да гэтага ніякага дачынення, бо Саманта сама зробіць выбар і скажа, тое яна абрала ці не. Плюсам можна лічыць магчымасць навучыцца фокусам, яны даволі простыя. Некалькі я нават занатавала для сябе. Але для некаторых патрэбны спецыяльныя прадметы, якія Сэм купляе ў краме «Чорная магія». Вось тут узнікае пытанне: няўжо нельга было зрабіць так, каб мець магчымасць набыць усё неабходнае адразу?

Пейзажы — каларытныя: адразу зразумела, што мы ў Англіі, старой і добрай. І яны не статычныя: вецер калыша дрэвы і аблокі па небе гоніць, ходзяць студэнты (праўда, іх няшмат, таму сумна: усё ж такі студэнцкі горад). Але самі персанажы абсалютна не прамаляваныя.

Незвычайныя і ролікі — у выглядзе жывых коміксаў. З аднаго боку, вельмі цікава паглядзець, як рухаюцца малюнкі, а з другога, — варта было зрабіць нармальныя відэаролікі.

Музыку пісаў Роберт Холмс. Яна шыкоўная, што ні кажы. Дарэчы, гульня выйшла ў супервокладцы з саўндтрэкам і плакатам.

Увогуле, застаецца скрыжаваць пальцы і чакаць другой часткі гульні, якую анансуюць ужо некалькі гадоў, а яна так і не выходзіць. Варта спадзявацца, што другая частка будзе кранаць аматараў графікай і большымі загадкамі, чым чалавечыя пачуцці.

***Вераніка Гамзюкова***

# Бярозка

Я ❤ самастойныя рашэнні



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*

***Выдаецца са снежня 1924 года***

***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»

В.а. галоўнага рэдактара
Святлана Дзмітрыеўна Дзянісава



Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас:
220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

Паштовы адрас:
220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.

Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч Карлюкевіч

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. Аўласенка
Рэдактары:
К. В. Захарэвіч, Ю. С. Ваўчок
Мастацкі рэдактар:
А. У. Галота
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. Кірэенка
Камп'ютарны набор:
А. Г. Кахноўская
Стылістычны рэдактар:
А. І. Саламевіч

Падпісана да друку 14.04.2016 г.
Фармат 60х84 $^{1}/_{8}$. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 7,44. Ул.-выд. арк. 7,09.
Тыраж 1433 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск





Клуб сяброў часопіса (які фарміруецца з кожным нумарам і складаецца з школ аўтараў, а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў) прадстаўлены на сайце.

*На першай старонцы вокладкі: гурт Re1ikt.*
*Фота — Андрэй Дубінін, апрацоўка — Аляксандр Дземідзенка.*



## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:

**1.** Якая розніца паміж блыхой і сабакам?

**2.** Калі чалавек можа імчаць са скорасцю гоначнага аўтамабіля?

**3.** Дзе можна знайсці гарады без будынкаў, рэкі без вады і лясы без дрэў?

**4.** Бумеранг можна кінуць так, што ён вернецца, не дакрануўшыся ні да якой цвёрдай паверхні. А ці можна кінуць так тэнісны мяч?

**5.** Што сваім дзецям заўсёды дае бацька і ніколі не дае маці?

**6.** Якая розніца паміж тэорыяй і практыкай?

**7.** Што заўсёды павялічваецца і ніколі не памяншаецца?

**8.** Вечарам мне даюць заданне на раніцу, а калі раніцай я яго спраўна выконваю — са злосцю б'юць мяне па галаве. Хто я?

**9.** Назавіце раку, якая ў роце змяшчаецца.



Адказы на пытанні для знаходлівых:

1. У сабакі могуць быць блохі, а ў бліхі не можа быць сабак.
2. Калі ён знаходзіцца ў гэтым аўтамабілі.
3. На геаграфічнай карце альбо глобусе.
4. Проста падкіньце мяч уверх.
5. Імя па бацьку.
6. Тэорыя — гэта калі ўсё зразумела, але нічога не працуе. А практыка — калі ўсё працуе, а як і чаму — незразумела.
7. Узрост чалавека.
8. Будзільнік.
9. Дзясна.

Падарунак ад Вожыка

Часопіс сатыры і гумару
















Аўтар Аляксандр Каршакевіч

# Каляндар Бярозка

Даты і падзеі

Што ўспомніць, чым заняцца, што прачытаць

## Май

**1** Вялікдзень

…Асвецяцца пасхальныя дары,
І Госпад уваскрослы з намі будзе,
І зведае душа такі прарыў
К вышыням, што вось-вось пакіне грудзі.

Вялікдзень! У паветры срэбны звон,
І сонцаў, як чырвоных яек, столькі.
А над усім царуе вечны Ён,
Каб мы Яго ў сабе прызналі толькі…

*Ірына Багдановіч*

«Самая любімая гульня на Вялікдзень — біткі. Стукаліся святочнымі яйкамі, і пераможцам аказваўся той, у каго яно заставалася цэлае («мацак»). Некаторыя шчаслíўцы выйгравалі ажно поўную шапку чырвоных яек. Знаходзіліся і жартаўнікі, якія замест яек падстаўлялі пафарбаваны камень круглай формы і такім вясёлым падманам здабывалі перамогу».

Беларускі народны каляндар

**3**

Амерыканскі вынаходнік Джордж Паркер у гэты дзень запатэнтаваў шарыкавую ручку. Зразумела, што ўрокам хутка канец — наперадзе канікулы, і таму не да ручак будзе. Але мо і варта час ад часу браць ручку, каб сёе-тое напісаць. «Бярозка» прапануе прысылаць у рэдакцыю любімыя вершы беларускіх класікаў, напісаныя ад рукі, каліграфічным почыркам, з тым, каб потым іх друкаваць. Ты, дружа, напішаш?

**5**

У 1846 годзе нарадзіўся Генрык Сянкевіч, нобелеўскі лаўрэат па літаратуры. Час прачытаць «Крыжакоў» або «Патоп». А калі хочаш ведаць усіх, хто атрымліваў гэтую слаўную прэмію, прачытай № 5 часопіса «Маладосць».

**9**

Дзень Перамогі. Купі, дружа, кветак і падары іх любому, хто жыве на зямлі больш за тры чвэрці стагоддзя.

**17**

150 гадоў каляроваму фотаздымку. Дашлі ў рэдакцыю «Бярозкі» сваё «аб'ектыўнае» бачанне любой гістарычнай мясціны. Самыя арыгінальныя фотаздымкі з аповедамі пра аб'екты, на іх адлюстраваныя, будуць надрукаваны.

**18**

Сусветны Дзень музеяў. У гэтай прасторы іншае паветра, іншыя гукі, іншыя пахі, іншы настрой. Абавязкова наведай музей! (На фота: сталовая ў сядзібе Ільі Рэпіна «Здраўнёва» пад Віцебскам).

**28/15**

Пахом! Павее цяплом!
Пасееш агуркі калі Пахом — будзеш хадзіць з мяхом.

ISSN 0320-7579







EAC